PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 3667714

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 36 (1843) ГОД XXXVI БЕЛАСТОК 8 ВЕРАСНЯ 1991 Г. ЦАНА 1000 ЗЛ.



РОДНЫЯ КРАЯВІДЫ. *Над ракою Нараўкай - кладка каля Старога Ляўкова.*

Фота Я. Целушэцкага

*********************************************************************

## ЯК МЫ ЗБІРАЛІ ПОДПІСЫ

Палякі прыкончаць нас, беларусаў, сваімі выбарамі! За кароткі перыяд — ад чэрвеня 1989 года да 1991 — даводзілася нам выбіраць паслоў і сенатараў, адміністрацыю, прэзідэнта. Сёлета быццам бы ўсё пачынаецца нанава — восенню будзем выбіраць новых паслоў і сенатараў. На практыцы гэта абазначае адно: кожны, хто хоча паставіць сваіх кандыдатаў, мусіць сабраць адпаведную колькасць подпісаў, якія падтрымліваюць гэтыя ж кандыдатуры. Маладому беларускаму палітычнаму руху, які згуртаваўся ў Беларускім выбарчым камітэце, трэба дваццаць тысяч подпісаў падтрымкі. Іначай кажучы, трэба каб падпісаўся прыблізна кожны дзесяты беларус — сталы жыхар рэгіёна.

Калі пішу гэтыя словы, паволі завяршаецца акцыя збірання подпісаў — пакуль што мне невядома, ці ўдалося дасягнуць пажаданага ліку. Акрамя Беларускага выбарчага камітэта за подпісы змагаліся на Беласточчыне Выбарчы камітэт праваслаўных і камітэт левых дэмакратаў. Абодва гэтыя камітэты ў часе сваёй акцыі ў большай альбо меншай ступені падшываліся пад беларускі рух, называючы сам Беларускі выбарчы камітэт адшчапенцамі, няверньмі, уніятамі, ці чым там яшчэ. Хай і так будзе. Для Беларускага выбарчага камітэта збіранне подпісаў праходзіла паспяхова, без патрэбы карыстання з такіх штучак. Я асабіста нідзе не сустрэўся з няветлівасцю. У Гайнаўцы, для прыкладу, на кандыдатаў Беларускага выбарчага камітэта падпісалася шмат католікаў. У Ялоўцы святар айцец Яўген Канаховіч, выказаўшы жаль з прычыны падзелу палітычнага руху на дзве плыні, сказаў вернікам, што трэба падтрымаць абодва камітэты — і беларускі, і праваслаўны. У шмат якіх вёсках людзі, пачуўшы слова „беларускі", ведалі ўжо ў чым справа ды падпісваліся ад маладога да старога.

У часе акцыі збірання подпісаў здарылася шмат усялякіх сітуацыяў — адны з іх забаўныя, іншыя не зусім. Прапаную вашай увазе некалькі рэакцыяў людзей, у якіх мы шукалі падтрымкі для кандыдатаў Беларускага выбарчага камітэта.

Пастукаў я ў дзверы аднае кватэры ў Гайнаўцы. Адчыніў мне малады хлапец, у якім я распазнаў свайго знаёмага з сярэдняй школы.

— Я з Беларускага выбарчага камітэта. Падтрымайце нашых кандыдатаў.

— Я ў „Салідарнасці" і не падтрымаю, але прайдзіце, калі ласка, далей — мая мама напэўна вам падпіша.

У іншай жа кватэры адчыніў мне мужчына гадоў пад сорак.

— Не бэндзе пяякіх подпісаў!

Я збіраўся быў ужо выходзіць, але тут жа выскачыла жонка гэтага чалавека.

— Як то не бэндзе? Пачакайце, я вам падпішу.

Лідэру спіску кандыдатаў Беларускага выбарчага камітэта Валянціну Сельвесюку дзверы адчыніла жанчына, якая заявіла:

— Я вам падпішу, але пад адным варункам — мусіце выкінуць з кандыдатаў Сакрата Яновіча!

— Калі толькі ў гэтым справа, то Яновіч у гэтым годзе не кандыдуе. Гляньце на спісак, тут адны маладыя людзі.

— Можа яны і маладыя, але я бачу, што нічога не робяць!

— Чаму?

— Бо перш-наперш ім трэба выкінуць Яновіча з беларускай партыі! Ведаеце, я беларуска і я гэтым ганаруся, і мне тут добра жывецца, а калі слухаю гэтага Яновіча, то бачу, што ён з нас, беларусаў, робіць абадранцаў апошніх.

Усё-такі падпісалася!

У іншай кватэры Сельвесюку не пашанцавала.

— Як то Бялорускі камітэт!? Пшэцеж Польска ест адна!

— А ці я вам кажу, што іх дзве?

( Працяг на стар. 4)



### ДАНУТА БІЧЭЛЬ

#### АЛЕ НЯМА

Дасьць Бог — у Беларусі
незалежнай,
ад веснавога сонца разгуканай,
хадзіць, як спадарам,
хадой нясьпешнай
нам паспрыяе доля нечакана.

Прачнуўшыся аднойчы не
пад спудам,
убачым, што на небе мы, ня ў яме.
Дасьць Бог, супольна зь
беларускім людам
маліцца будзем
у Хрыстовым храме.

На мове мацярдушак і мацеек
паразумеемся, а самаед ня пікне.
А той жаргон
кашмарны Дземяньцея
з экранаў, нібы
стракаценьне, зьнікне.

Але няма людзей на Беларусі.
Дарэмна да грудзей тваіх тулюся
і чую, як там стукае няспынна
зьняверанaя, нічыя айчына.

А нас, таленавітых, ганаровых,
свае ж сякуць бязьлітасна
пад корань.
Разумных, рызыкоўна каляровых
правінцыя малюе ў шэры колер.

Па пёрку птахі скінуць нам
ня хутка,
каб уврабраўся ў крыльле
люд
бяскрылы.
Губляем талент па гнілых закутках
ды надрываем струджаныя жылы.

18.06.90

#### МІКОЛЕ ДЗЕМЯНЬЦЕЮ

Кажаш — мы народ другога сорта,
напладзілі здраднікаў кагорту.
Аддалі жывое сэрца чорту.

Па атаве наш пэгас пасецца,
аглядаючыся на расейца,
мейсца нам адведзенае ў сенцах.

Сьвістуны займаюць нашу хату.
Мы за іншымі пляцемся ззаду,
даць у зуб ня ўмеем без нагляду.

Мы складаем песьні без настрою,
сумныя, як і жыцьцё старое...
Толькі выключэньне — мы




# АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

Дзеянні ў карысць Беларускага музея вялі мы не толькі па-за межамі краіны, але таксама тут на месцы ў выпадку прыезду беларускіх эмігрантаў у Польшчу. Па сутнасці ад самага пачатку будовы час ад часу прыязджалі да нас беларусы з заходніх краін. Запамяталіся, напрыклад, прыезды Сяргея Карніловіча і Веры Бартуль з Амерыкі, спадарыні Смарчок з Бельгіі, Зоры і Вітаўта Кіпеляў з Амерыкі або танцавальнага калектыву „Васілёк" з Амерыкі. Усіх іх Кастусь Майсеня заўсёды грунтоўна знаёміў з гісторыяй і са станам пабудовы музея. На працягу першых гадоў не многа можна было паказаць. Быў толькі адзін будынак „А", які на пачатку быў пазбаўлены і столі, і падлогі, і вокан, і дзвярэй. Аднак, дзякуючы нястомнасці гайнаўскага актыву БГКТ і перш за ўсё Кастуся Майсені, будынак гэты мяняў усё болей сваё аблічча. І тыя эмігранты, якія прыязджалі па некалькі разоў, заўсёды падкрэслівалі працэс ажывання музейнага будынку. З часам Майсеня ўзяўся за будынак „Б". Аказалася, што ў зямлі, на якой трэба было ўзвесці фундамент пад гэты будынак, знаходзіцца велізарная колькасць непатрэбнага бетону. Задумоўваліся, ці не ўзрываць яго дынамітам. Аднак, такая аперацыя пагражала вокнам, а можа і жыхарам з суседніх будынкаў. Давялося рваць бетон пры дапамозе традыцыйных спосабаў. І будынак „Б" вельмі хутка вырас. Сёння вядуцца ў ім фінальныя работы. Калі пасля вядомых палітычных перамен у 1989 годзе Беларускае таварыства перайшло з-пад Міністэрства ўнутраных спраў пад Міністэрства культуры і мастацтва, мы накіравалі ў Міністэрства культуры і мастацтва ліст з просьбай дапамагчы музею сумай двух мільярдаў злотых. Вялікай была наша радасць, калі пасля доўгага чакання ў самым канцы 1990 года атрымалі мы на музей мільярд злотых. Даючы грошы, Міністэрства паставіла варунак — запатрабавала расходваць мільярд перад канцом года, гэта значыць на працягу няцэлага месяца. Узніклі сумненні — як гэта зрабіць? Канчаць будынак „Б" ці пачынаць будову будынку „Ц". Пасля пэўных ваганняў рашылі будаваць „Ц". А быў на свеце снежань, і мы баяліся, што ўдарыць мароз і мы, выкапаўшы катлаван пад фундамент будынку, не зможам палажыць ніводнай цэглы.

Нягледзячы на гэта, мы рызыкнулі і катлаван выкапалі. Бог аказаўся літасцівы, утрымліваў параўнаўча высокую тэмпературу. І гэта дазволіла заліць бетонную лаву, палажыць цэглы і вывесці фундамент на паверхню зямлі. Перамога! Цяпер не страшны быў ані мароз, ані вада. Грошы былі выкарыстаны і створана дасканалая падстава пад веснавыя работы. Маючы яшчэ гэтую суму грошай, Майсеня наняў будаўнічую брыгаду ў будынак „Б", у якім можна было весці работы і пад час марозу. Зрэшты, марозу практычна на працягу ўсёй зімы не было і таму будаўнічыя работы вяліся да поўнага выкарыстання грошай.

Дзякуючы гэтым энергічным дзеянням тры будынкі Беларускага музея надта змянілі сваё аблічча і сталіся сілай, якая ўсё болей прыцягвае людзей.

У палове жніўня 1991 года наведала Беларускі музей дзевяціасабовая група беларусаў з Амерыкі на чале з Сяргеем Карніловічам. Майсеня прадставіў гісторыю пабудовы, а пасля паказаў гасцям усе будынкі. З прыемнасцю я слухаў выказванні Янкі Азаркі і Сяргея Карніловіча, якія з вялікай узрушанасцю гаварылі аб тым, што Беларускі музей дарагі таксама сэрцам беларускіх эмігрантаў і што яны таксама хочуць трактаваць яго як сваю ўласнасць. І думаю, што гэта найважнейшае. Хай Беларускі музей станецца каштоўнасцю, якая належыць да ўсіх беларусаў свету!

**АЛЕСЬ БАРСКІ**




**Упадак вайсковага путчу ў СССР**, з аднаго боку, надзвычай прыспешыў працэс эмансіпацыі саюзных рэспублік, а з другога — паставіў усю дзяржаву перад цэлым комплексам палітычных, мілітарных і эканамічных праблемаў, што непазбежна ўзніклі разам з перспектывай паслаблення цэнтральных сувязяў. Адно з самых важных пытанняў для стабільнасці сусветнай палітыкі — кіраванне ядзерным патэнцыялам СССР. Украіна заявіла аб перадачы ўсёй ядзернай зброі, што знаходзіцца на рэспубліканскай тэрыторыі, для Расійскай федэрацыі. Казахстан спыніў ядзерныя выпрабаванні на палігоне каля Семіпалацінска.

**Прэзідэнт Расіі Барыс Ельцын** заявіў аб пераглядзе межаў з суседнімі рэспублікамі ў выпадку, калі тыя адмовяцца падпісаць саюзны дагавор. Гэтая заява выклікала галасы пратэсту ў Казахстане, Украіне і Беларусі. 30 жніўня было падпісана пагадненне аб утрыманні дагэтуляшніх межаў паміж Расіяй і Казахстанам.

**Балтыйскія рэспублікі** штораз бліжэй незалежнасці. Аб усталяванні дыпламатычных адносін з Літвой, Латвіяй і Эстоніяй заявіла большасць еўрапейскіх краін.

**Заявы аб незалежнасці** прынялі дзве наступныя рэспублікі СССР — Азербайджан і Кіргізія.

**Ішлі жорсткія баі ў Харватыі і Славеніі** паміж федэральнай арміяй і нацыянальнымі гвардыямі гэтых рэспублік. Прэзідэнт Югаславіі С. Месіч заявіў 29 жніўня, што „толькі медыяцыя Еўрапейскай супольнасці ў змозе закончыць гэтую брудную вайну".

**Урадавы крызіс у Польшчы.** 30 жніўня прэм'ер-міністр Ян Кшыштаф Бялецкі, выступаючы ў парламенце, склаў дымісію свайго ўрада. „Мы апынуліся ў сітуацыі, калі нашай дзяржаве пагражае параліч вырашэнняў", — сказаў Я. К. Бялецкі. Сейм дымісіі не прыняў. Прэсавы прадстаўнік ўрада заявіў, што ўрад выступіць у парламент з праектам надання яму спецыяльных паўнамоцтваў.

**Выбарчы камітэт нямецкай меншасці ў Аполі** першы ў краіне атрымаў пасведчанне Дзяржаўнай выбарчай камісіі, якое дае права рэгістраваць спіскі кандыдатаў у парламент ва ўсіх выбарчых акругах без вымогі збірання далейшых подпісаў. Камітэт у падтрымку сваіх кандыдатаў у самім Апольскім ваяводстве сабраў 50 тысяч подпісаў.

**Падобнае пасведчанне 31 жніўня атрымаў Беларускі выбарчы камітэт**, які ў падтрымку сваіх кандыдатаў у Беластоцкім ваяводстве сабраў 20.267 подпісаў. Акрамя беластоцка-сувальскай выбарчай акругі БВК паставіў сваіх кандыдатаў у шасці іншых акругах.

**На сусветным чэмпіянаце па лёгкай атлетыцы ў Токіо** амерыканец Майк Паўэл устанавіў новы сусветны рэкорд па скачках у даўжыню вынікам 8,95 м. Папярэдні рэкорд прыналежаў таксама амерыканцу, Бобу Біману, які ўстанавіў яго вынікам 8,90 м на алімпійскіх гульнях у Мексіцы 23 гады таму назад.

**ЯМ**

## ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

Беларускае грамадска-культурнае таварыства, Грамадскі камітэт пабудовы Беларускага музея і Клуб беларускай інтэлігенцыі вітаюць гістарычны акт — Пастанову Вярхоўнага Савета БССР аб незалежнасці Беларусі. У гэтым акце бачым спаўненне адвечных імкненняў і мараў беларусаў аб народнай вольнасці і нацыянальнай самастойнасці.

Незалежнасць Беларусі адкрывае перспектыву росквіту нашай нацыянальнасці і ўстанаўлення братэрскіх адносін з суседнімі народамі і народамі ўсяго свету.

Незалежнасць Беларусі стварае магчымасць сапраўднага рэнесансу беларускай духоўнасці і беларускай гаспадаркі.

Акт незалежнасці з'яўляецца роўным па свайму прэсціжу і рангу з актам абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1918 годзе.

Надышоў доўгачаканы час супольнай працы ў карысць вольнай Айчыны беларусаў ва ўсім свеце.

Жыве Беларусь!

Беласток, 26 жніўня 1991 года.



*Мінск.* **Фота М. Лукшы.**

## ✷ ЗАЯВА ✷

Дзеячы Беларускага дэмакратычнага аб'яднання, Беларускага аб'яднання студэнтаў, Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа", якія сабраліся 26 жніўня на свой агульны сход, з пачуццямі шчырай радасці ўспрынялі вестку аб апавяшчэнні незалежнасці Беларускай Рэспублікі. Гэту падзею ўспрынялі як эпахальную ў гісторыі Беларускага Народа, які з невыказнымі цяжкасцямі, ахвяруючы незлічонымі чалавечымі стратамі, дабіваецца дзяржаўнай самастойнасці. Веквечная справядлівасць бярэ нарэшце верх!

Разам з тым выказваем сваю глыбокую пераконанасць у тым, што Польскі Народ, як і ўся грамадзянская супольнасць у нашым рэгіёне, з сімпатыяй ды сардэчнай падтрымкай успрымаюць выхад Беларусі з падлегласці. Адкрываецца новая старонка добрасуседскага сужыцця свабодных са свабоднымі.

Беласток, 1991-08-26.




- ✱ Наколькі нас не любяць.
- ✱ Вакол музея Тарашкевіча.
- ✱ Да гісторыі Жыровіцкай іконы Божай Маці.
- ✱ Як мы былі ў Статуі Свабоды.
- ✱ Весткі, парады, гумар.

# Святыя Беларускай зямлі

*СВЯТЫ ПРАПАДОБНЫ МУЧАНІК АФАНАСІЙ БРЭСЦКІ.*

Прападобны мучанік Афанасій Філіповіч у гісторыі Праваслаўнай царквы на Беларусі быў сімвалам змагання з уніяй і каталіцызмам. Аб дзейнасці беларускага святога мы даведваемся з ягонага „Жыцця", спісанага ў канцы XVII стагоддзя студэнтамі кіеўскай брацкай школы і з запісаў яго паслушнікаў.

Нарадзіўся Афанасій Філіповіч у 1597 годзе ў Брэсце. Ягоная сям'я прыналежала да царкоўнага брэсцкага брацтва. Брацтва, арганізаванае праваслаўнымі мяшчанамі горада ў канцы XVI стагоддзя, узяло на сябе абавязак абароны рэлігійна-культурных і палітычна-эканамічных інтарэсаў беларускага народа. Пры брацтве дзейнічала царкоўная школа, бальніца і друкарня. Брацкая школа вучыла дзяцей членаў брацтва. У такой школе святы Афанасій атрымаў старанную адукацыю, пазнаў старабеларускую, польскую, грэчаскую і лацінскую мовы.

Ва ўзросце трыццаці гадоў уступіў ён у Віленскі Святадухаўскі манастыр. Праз пару гадоў мітрапаліт паслаў Афанасія Філіповіча ў Купяціцкі манастыр, які захацелі забраць мясцовыя уніяты. Прыехаўшы ў Купяціцкі манастыр, святы Афанасій моцна ўсхваляваўся праследаваннямі праваслаўных манахаў. Молячыся перад цудоўнай іконай Купяціцкай Божай Маці, ён пачуў голас, які наказаў яму ісці прасіць дапамогі да маскоўскага цара. Нягледзячы на ваеннае становішча, ён пастанавіў выканаць волю Божай Маці. Пайшоў у Маскву і там сустрэўся з царом Міхаілам Фёдаравічам, расказваючы яму аб праследаваннях праваслаўных у Польшчы. Цар абяцаў дапамагчы праваслаўным і даў ім матэрыяльную дапамогу.

Вярнуўшыся ў Брэст, Афанасій Філіповіч стаў ігуменам тамашняга Сімяонаўскага манастыра. У 1647 годзе брэсцкі манах паехаў у Варшаву. Там выстараўся каралеўскі прывілей брэсцкаму царкоўнаму брацтву. Кароль Уладзіслаў IV выставіў таксама другую прывілею для праваслаўных жыхароў горада, якая гарантавала ім усе правы.

Намаганні ігумена Афанасія не спадабаліся царкоўнай ерархіі. Асабліва непакоіла епіскапаў адвага, з якой брэсцкі манах выступаў у абарону Праваслаўнай царквы, дамагаючыся



ліквідацыі уніі. Непакоілі таксама адданых Польшчы ўладыкаў ягоныя кантакты з духавенствам замежжа. З гэтых прычын царкоўныя ўлады пачалі весці супроць святога Афанасія следства, дапытвалі яго, пагражалі судом. Змучаны змаганнем у Варшаве з каталіцкім клірам, ігумен брэсцкі вяртаецца ў манастыр. Аднак, зноў у час малітвы перад іконай Купяціцкай Маці Божай пачуў яе голас, які наказваў надалей прасіць польскага караля, каб той ліквідаваў унію, якая многа зла нарабіла ўсім хрысціянам. Афанасій вярнуўся ў Варшаву і там рабіў намаганні сустрэцца з каралём Уладзіславам IV. На жаль, на месцы сустрэчы яго арыштавалі. З турмы ігумен напісаў ліст да караля, у якім апісаў асабістае і царкоўнае становішча ў краіне. Уладзіслаў IV загадаў звольніць манаха і адаслаць яго ў Кіеў пад духоўную апеку мітрапаліта Пятра Магілы. Незадаволены сваёй місіяй, Афанасій вымушаны быў выканаць каралеўскую волю. Да смерці мітрапаліта Пятра Магілы /1647г./ прападобны мучанік жыў у Пячэрскай Лаўры. Вясною 1648 года манах вярнуўся ў Брэст. Ягонае вяртанне мясцовыя польскія ўлады спалучылі з пачаткам казацкага паўстання Багдана Хмяльніцкага. Брэсцкага ігумена падазравалі ў супрацоўніцтве з казакамі. 1 ліпеня 1648 года польская шляхта ўварвалася ў Сімяонаўскі манастыр і арыштавала Афанасія Філіповіча. Перад брэсцкім судом яго абвінавацілі ў пасыланні паўстанцам пораху. Суд, не маючы доказаў, пастанавіў пасадзіць ігумена ў турму за ягоныя выступленні супроць уніі. У замкавай турме Афанасія наведвалі езуіты, намаўляючы яго пакінуць праваслаўе і прыняць унію. 5 верасня 1648 года езуіты, не бачачы вынікаў гэтых намоваў, выцягнулі манаха з турмы і пачалі яго мучыць. Калі і гэта не адвяло брэсцкага ігумена ад праваслаўя, тады мучыцелі наказалі жаўнеру застрэліць яго, а цела закапаць у яму. Магілу святога мучаніка знайшло адно дзіця 1 мая 1649 года. Паслушнікі і вучні Афанасія тайна адкапалі нятленнае цела і перанеслі ў Сімяонаўскую царкву. Святыя мошчы захоўваліся там да 1816 года. У гэтым годзе частка іх згарэла, а астанкі былі перанесены ў каштоўную раку. Рака гэта да сённяшніх дзён перахоўваецца ў брэсцкім Сімяонаўскім саборы. Як і раней, сёння пры мошчах святога многія атрымоўваюць выздараўленне і ўмацоўванне ў праваслаўнай веры, за якую аддаў сваё жыццё прападобны мучанік Афанасій, ігумен брэсцкі.

**Антось Мірановіч**

## Смерць Афанасія Філіповіча

— Суняўся б ты хоць сёння, Апанас,
Утаймаваў бы нораў і гардыню!
Ці ж белы свет на уніі для нас
Сышоўся клінам?

Прашу, як друга, ты ад слоў сваіх,
Пакуль яшчэ не позна, адрачыся
І з уніятамі — час гэткі? — прымірыся,

— Не цкуй ты іх...

— Што чую ад цябе, айцец святы?
Ты, праваслаўны, гэта мне гаворыш?..
О, гора мне!
О, гора вам, браты!
Няверным гора!

Каб з уніею праклятаю змірыцца,
З прадаўцамі, што ганьбяць запавет?
Не, ойча, ні за што! Лепш не радзіцца
На Божы свет!

Што гаварыў, і гавару
І паўтараю.
На чым стаяў, на тым стаю,
З тым паміраю.
На продаж хціўцам не аддам
Я веры нашай!

...І стрэлы грымнулі ў вясне,
І рэха змоўкла, там, на лядах, —
А ён, прыпёршыся к сасне,
Стаяў усё, стаяў, бы ў сне,
Стаяў — не падаў.

„О, Езус! — прашаптаў гайдук. —
Не чалавек — то д'ябал, халера..." —
І ўвесь збялеў, нібы папера.
А Той стаяў, як на бяду
(Лахмаціў вецер бараду),
Не прывід, не! —
Стаяла Вера!

**Міхась Рудкоўскі**

**************************************************

# Будаўнікі беларускага музея ў Гайнаўцы

Пабудова Музея помнікаў беларускай культуры ў Гайнаўцы магла здзейсніцца пасля перагазання горадам пляца і свабоднага будынку цэху мазаікарні Гайнаўскага прадпрыемства драўнінннай прамысловасці. Апрацаванне праекта даручана было Праектна-даследчаму бюро агульнага будаўніцтва „Мястопроект" у Беластоку. Аўтарам праекта з'яўляецца магістр інжынер Ян Кабац.

Прыстасаванне будынку былога цэху Грамадскі камітэт пабудовы музея даручыў будаўнічаму кааператыву (спулдзельні) „Чын" у Гайнаўцы. Кааператыў гэты быў заснаваны ў 1963 годзе з мэтай разбудовы гандлёвых і паслуговых базаў для вёскі. Падначальваўся ён тагачаснай Цэнтралі сельска-гаспадарчых спулдзельняў „Самопомоц Хлопска", а ініцыятарам стварэння гэтага кааператыва быў Канстанцін Майсеня, у цяперашні час старшыня Грамадскага камітэта пабудовы музея. Першым старшынёй будаўнічага кааператыва быў Ян Хіліманюк — намеснік старшыні камітэта.

Склады, цэнтры скупкі жывёлы, майстэрні, крамы, канторы, школы, каўбасныя, пякарні і многа іншых будынкаў, выкананых гэтым кааператывам, гаспадарча ўзбагаціла наш рэгіён. Фірма гэтая перажыла шмат рэарганізацый і назваў, у залежнасці ад падпарадкавання яе ўладам сельскагаспадарчай спулдзельчасці. Летась кааператыў стаў самастойным і называецца цяпер „Будаўнічая спулдзельня працы „Чын" у Гайнаўцы" і з'яўляецца генеральным выканаўцам пабудовы Музея. Перадала ў мінулым годзе ў карыстанне адзін будынак. Праектанты назвалі яго ўмоўна „часткай А". Знойдуцца ў ёй памяшканні для рэстаўратарскіх майстэрняў музейных экспанатаў, складаў і архіва. У даны момант у залах выстаўлена невялікая экспазіцыя этнаграфічных калекцый і дараў мастакоў і народ-ных майстраў з БССР. Частку „Б" (адміністрацыйна-сацыяльную) кааператыў будаваў ад фундаментаў, падключыў цэнтральнае ацяпленне да цэнтральнай сеткі, санітарную і дажджавую каналізацыю. У гэтай частцы будуць: бібліятэка з чытальняй, кіно-канфе-рэнцыйная зала на 100-120 месцаў, сацыяльныя памяшканні і бюро, начлежныя пакоі. Цяпер тут выконваюцца ўнутраныя тынкі і завяршальныя працы пры вокнах і дзвярах.

Нягледзячы на фінансавыя цяжкасці Грамадскага камітэта пабудовы музея, кааператыў узяўся за нялёгкую будаўнічую задачу. І якраз яму трэба прызнаць вялікую заслугу ў рэалізацыі гэтай высакароднай справы. Цяпер гэтая фірма (як і шмат падобных у краіне) перажывае фінансавы і арганізацыйны крызіс.

Адным з падвыканаўцаў упамянутага кааператыва з'яўляецца Паслугова-праектнае прадпрыемства „Артбуд" — суполка з а.а. у Беластоку, якое падключыла будынак музея да гарадскіх водаправоднай і каналізацыйнай сетак.

Дзякуючы грамадскаму ангажаванню дзеячоў нашага рэгіёна, шмат працаў пры музеі выканана грамадскім пачынам. Такім спосабам атрымаліся штыкеціны, надрэнная агароджа з боку пасёлка, грамадска падключаны электрычны ток з аднэй трафастанцыі. Адна група дзеячоў дацягнула ў катлаване некалькі дзесяткаў тэлефонных правадоў, што ў будучыні палегчыць працаўнікам кантакты з паасобнымі цэнтрамі і грамадствам.

Усіх цяжкасцей пры пабудове немагчыма пералічыць. Напрыклад, падчас раскопак грамадскім пачынам катлавана пад фундамент пад частку „Б" трапілі на старыя падмуркі, якіх без узрыўных матэрыялаў нельга было адолець. Дапамагла ў гэтым варшаўская фірма.

Аб іншым прадпрыемстве, якое таксама ангажавалася ў пабудову музея, напішу наступным разам.

**Міхал Голуб**




## ШТО З МОВАЙ?

**Паважаная Рэдакцыя!**

У „Ніве” некалькі гадоў друкуюцца „Гутаркі аб мове” Н. Амельянюк. Аўтарка падае там граматыку і правапіс, устаноўленыя пастановаю „Совнаркома” БССР у 1933 годзе, мэтаю якой была русіфікацыя беларускае мовы. Думаю, што час адыходзіць ад накінутых сілаю, адарваных ад жывое мовы і класічнае традыцыі беларушчыны, правілаў. Час варочацца да граматыкі і правапісу, апрацаваных Браніславам Тарашкевічам. Гэта датычыцца як „Гутарак аб мове”, так і цэлае „Нівы”.

А наогул замысел з цыклам артыкулаў у „Ніве” аб беларускай мове быў зусім іншы, чым перадрук „наркомаўскае” граматыкі. Замысел гэты паўстаў на адной з нарадаў ГП БГКТ. Мэтаю такога цыкла было даказаць, што гаворкі паўднёвае Беласточчыны не ўкраінскія, а беларускія. Меў гэта быць наш адказ на псеўданавуковыя вывады псеўдаўкраінцаў з Беласточчыны. А ў „Гутарках аб мове” Н. Амельянюк няма пра гэта ані слова.

З пашанай
**Багдан Цясноўскі**,
Варшава

## БЯЗГЛУЗДЗІЦЫ „КУР'ЕРА ПАДЛЯШСКАГА”

Нядаўна ў славутай з антыбеларускіх выступленняў беластоцкай газеце „Кур'ер Падляшскі” (Н-р 141 (2063) ад 26-27-28 ліпеня г. г.) з'явілася пісьмо вядомага і беларускаму чытачу з нашумеўшай у Беларусі і Польшчы публікацыі Юрася Закрэўскага „Па той бок крэсаў” („Літаратура і Мастацтва”, Н-р 8 (3574) ад 22 лютага г. г.; „Ніва”, Н-р Н-р 12 і 13 ад 24 і 31 сакавіка г. г. ды іншыя шматлікія перыядычныя выданні на Беларусі) — Міхала Дабрыніна з Брэста. З ліста гэтага можна зразумець, што быццам бы ягоныя антыбеларускія выступленні ў мінулым годзе ў Беластоку былі ўдзельнікам курсаў для палякаў Юрасём Закрэўскім прыдуманыя, звычайнай „хлуснёй, знявагай у ягоны адрас”, артыкул жа аўтара меў быццам бы „антыпольскі правакацыйны” характар, а ў выніку судовага разбору, які прайшоў 30-31 мая г. г., а затым 24 чэрвеня ў Партызанскім раённым судзе ў Мінску „рэдактар і ілгун-аўтар (...) не мелі ніякіх аргументаў, каб даказаць антыпольскую хлусню”.

З ліста М. Дабрыніна, які выступіў у трыумфальнай і гераічнай позе, можна таксама зразумець, што быццам бы ў выніку судовага разбору аўтар публікацыі Юрась Закрэўскі пацярпеў „заслужанае” пакаранне ды прымушаны быў публічна перапрасіць у нічым „непрычыннага да віны” ды чыстага як сляза М. Дабрыніна. Як нібыта доказ, „Кур'ер Падляшскі” перадрукоўвае „прабачэнне” „Літаратуры і Мастацтва” (Н-р 26 ад 28 чэрвеня г. г.) „М. Дабрынін гэтага не гаварыў...”. З надрукаванага ў „Кур'еры...” пісьма М. Дабрыніна „Махлярства ў „Мастацтвах” вынікае таксама і тое, што „змайстраваная” быццам бы ў ягоны адрас публікацыя была „вываю нешматлікіх кансерватыўных колаў на Беларусі” (стар. 6). А якая ж праўда?

Калі каталіцызм як веравызнанне з'яўляецца для М. Дабрыніна і надалей „вываю нешматлікіх кансерватыўных колаў на Беларусі”, дык Юрася Закрэўскага, як беларуса-католіка, сапраўды можна аднесці да ліку гэтых „кансерватыўных колаў”.

Судовы ж разбор, які прайшоў у Мінску, не закончыўся пройгрышам Закрэўскага,

**( Працяг на стар. 5 )**

## Свойскія малюнкі



*Сямяцічы.*
*Мал. У. Петрука.*

**************************************************************************




2/ Польская і літоўская палітыка на беларускіх тэрыторыях, адступленых гэтым краінам бальшавікамі, даказвае, што абедзве дзяржавы імкнуцца да поўнага знішчэння беларускага народа на тых тэрыторыях. Напрыклад, у перададзеных бальшавікамі Польшчы губернях Гродзенскай, Віленскай і Мінскай польскі ўрад пазбаўляе зямлі беларускіх сялян у карысць вайсковых польскіх каланістаў (Сеймавы закон ад 20.XII.1920г.), руйнуе беларускія гаспадарчыя арганізацыі, зачыняе кааператывы і пачатковыя беларускія школы і нават пры дапамозе войска забірае памяшканні, прымушае адчыняць польскія школы, забараняе адчыняць беларускія школы (нават такія, якія ўтрымлівала б насельніцтва), не дазваляе поўнасцю выдаваць часопісы, або адкрываць беларускія культурныя ўстановы. Барацьба з усім, што мае беларускі характар, выступае асабліва шырока ў гродзенскай акрузе, якую польскі ўрад стараецца пераўтварыць у чыста польскую акругу. Барацьба гэта цалкам свядома вядзецца варшаўскім урадам. Міністр унутраных спраў п.Скульскі заявіў з цынічнай шчырасцю беларускай дэлегацыі, што на працягу пяцідзесяці гадоў у межах Польшчы не застанецца найменшага беларускага следу.

Літоўская палітыка ў адносінах да Беларусі ў нічым не адрозніваецца ад польскай. Літоўскі ўрад ва ўсіх сваіх урадавых заявах гаворыць, што ўсе католікі з зямлі гродзенскай і віленскай з'яўляюцца літоўцамі, якія забылі літоўскую мову і гавораць па-польску або па-беларуску. На працягу кароткага панавання Літвы на абшары Вільні літоўскі ўрад не дазволіў адкрыць ніводнай беларускай школы, тады калі на працягу двух або трох месяцаў пасля ўваходу ліцвінаў, апрача гімназіі, было адкрыта ў 1918 годзе дзесяць пачатковых школ.

Усе патрабаванні беларускага люду адносна атрымання тэрытарыяльнай аўтаноміі на абшары, дзе ён складае большасць, былі адкінуты літоўскім парламентам і ўрадам. Літоўскі ўрад не забяспечыў нацыянальнай аўтаноміі беларусам — дзякуючы гэтаму не быў рэалізаваны пункт дагавору, заключанага паміж урадам Беларускай Народнай Рэспублікі і Літоўскай Дэмакратычнай Рэспублікі (11.XI.1920). У гэтым часе з мэтай пераканання Еўропы ў сваёй талерантнасці літоўскі ўрад стварыў т.зв. Міністэрыюм да беларускіх спраў. Міністэрыюм, які змагаецца з усімі беларускімі нацыянальнымі праявамі. На чале яго стаіць літоўскі чыноўнік, да якога ўся арганізаваная беларуская грамадскасць адносіцца без даверу. Не далі вынікаў усе патрабаванні адносна адстаўкі гэтага чыноўніка.

3/ Польшча прапануе кантанальную сістэму, якая абапіралася б на нацыянальным прынцыпе. Ковенскі кантон трактуецца як поўнасцю літоўскі, а Віленскі кантон як поўнасцю польскі. Такая канцэпцыя з'яўляецца памылковай ужо ў сваім прынцыпе, а гэта таму, што нельга не бачыць таго факту, што ў межах, прапанаваных праектам Гыманса, знаходзіцца 65 % беларусаў і 15% яўрэяў. Такім чынам прадбачаны віленскі кантон не можа трактавацца як польскі. І таму патрабуем:

а/ каб віленскі кантон быў трактаваны не як нацыянальная адзінка, а толькі і выключна як адзінка тэрытарыяльная;

б/ каб у межах віленскага кантона ўсе тры нацыянальнасці карысталіся аднолькавымі правамі

в/ каб беларуская мова ў двухкантанальнай дзяржаве карысталася правамі дзяржаўнай мовы таксама, як мова польская і літоўская

г/ каб кожная гміна згодна з уласнай воляй выбірала для сваёй тэрыторыі дзяржаўную мову.

Не маючы на канферэнцыі ў Брусэлі ўласных прадстаўнікоў, дзе Польшча і Літва хацелі б згодна раздзяліць беларускую тэрыторыю са шкодай для беларускага народа, перадаем ад імя таго народа ў рукі Вашай Высокасці гэтую праяву яго волі і заяўляем, што ніякая іншая інтэрпрэтацыя яго волі зусім не адпавядае патрэбам і патрабаванням тых, хто пазбаўлены голасу выступаючымі ў перагаворах бакамі. Заяўляем, што беларускі народ не прагне шчыра рукі да іншых народаў той краіны так доўга, як доўга яго патрабаванні не будуць рэалізаваны. Усякія спробы спалучыць беларускую справу ў польска-літоўскай спрэчцы параняць цела новай дзяржавы, якая ніколі не зажыве.

Ад імя Народнага Беларускага камітэта ў Вільні.

Вільня, дня 15 чэрвеня 1921 г.

**(Пераклад з польскай мовы А.Б.)**

## ЯК МЫ ЗБІРАЛІ ПОДПІСЫ

**( Працяг са стар. 1 )**

У вёсцы Шымкі жывуць адны беларусы, усе яны па-беларуску гавораць — розніца паміж імі такая, што адны праваслаўныя, а іншыя католікі. Подпісы ў Шымках збіралі Юрка Ляшчынскі і Багдан Сіманенка. Трапілі на аднаго католіка.

— Нічога вам ня буду падпісваць, мы тут сапраўдныя палякі, — кажа той чысцюсенькай беларушчынай.

Юрка пачаў па-польску, а той па-польску ні слова. Затое ён схапіў за касу, хлопцы далі ходу, а ён крычаў за імі:

— Хадзіце, хадзіце! Я вам зараз падпішу!

У вёсцы Волька Нурэцкая, дзе і я з сябрамі збіраў подпісы, людзі падпісваліся без аніякіх сумлеваў, усе да аднаго. Але і тут здарылася такое, што трошку сапсавала нашу палітыку. У Вольку прыехалі Сведкі Яговы і давай весці сваю агітацыю. Людзі пачалі думаць, што і мы запісваем у Яговых — пачалі адмаўляць нам. Канфрантацыя была непазбежная! Сабраўся натоўп народу. Беларускі камітэт бараніў мой брат Ян Максімюк.

— То як па-вашаму завецца Бог? Ягова, Ягве, ці нейк яшчэ інакш? Калі ў тэтраграм уставіць галосныя, то атрымаем імёнаў пад дваццаць! Га?

— Як вы так можаце, ваш брат то прынамсі культурна з намі!

Народ пачаў схіляцца ў бок Беларускага выбарчага камітэта. Сведкі Яговы гэта заўважылі, заехала па іх дзве машыны і далі ходу з Волькі Нурэцкай у Дашы, у Каралеўства Яговы! Мы працягвалі збіранне подпісаў.

Запісаў
**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК,**
**кандыдат Беларускага выбарчага камітэта ў Сейм**

# „Міжагнёўе”

## ВЫБРАНЫЯ ТВОРЫ МІХАСЯ КАВЫЛЯ

У мінулым годзе Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ў Нью-Йорку выдаў кнігу паэзіі Міхася Кавыля (сапр. Язэпа Лешчанкі) „Міжагнёўе”, адзначаючы, такім чынам, 75-годдзе паэта. Кніжку адрэдагавалі Зора Кіпель і Янка Запруднік, англамоўным уступам папярэдзіў яе Томас Бэрд. БІНіМаўская серыя, прысвечаная вядучым постацям літаратурнага жыцця ў беларускай эміграцыі, паставіла на свой улік чацвёртую пазіцыю. Папярэдне БІНіМ падрыхтаваў і выдаў зборнікі Наталлі Арсенневай („Між берагамі”, 1979), Алеся Салаўя („Нятускная краса”, 1982) і Аляксандры Саковіч („У пошуках праўды”, 1986). Кожны, хто знаёмы з гэтай дзялянкай выдавецкай актыўнасці нью-йоркскага Інстытута, несумненна пагодзіцца, што „аўтарская серыя” з'яўляецца самым паказальным выдавецкім мерапрыемствам беларускай эміграцыі: яна надзвычай старанна і салідна рэдагуецца, прытым выдаецца на высокім паліграфічным узроўні.

У БІНіМаўскую кнігу Міхася Кавыля ўвайшлі творы з ягоных папярэдне апублікаваных зборнікаў: „Першая рана”, „Цяжкія думы”, „Ростань” і „Пад зорамі белымі”, з падрыхтаванага зборніка „Міжагнёўе” ды шмат вершаў і паэмаў, якія ў асобныя зборнікі не прызначаліся. Асобным раздзелам у кнізе выдзелена проза — тры апавяданні. Варта яшчэ адзначыць, што аўтар папярэдзіў кнігу біяграфічным нарысам „Мой шлях”.

Жаўрукоў шчабяткія клярнэты
Срэбным россыпам будзяць цішу,
І дзяўчатам агеньчыкі кветак
Уплятае вясна у касу.
Бы выданьніцы, сосны, бярозкі
Углядаюцца ў люстра вазёр;
Абступіў задумёнexisting вёскі
Гаманкі, непакратаны бор.

„Я душу нявыгойна параніў” — гэтак называецца верш, дзве страфы з якога я прывёў вышэй. Гэты загаловак можа служыць своеасаблівай эпіграмай да самага лепшага, што ў беларускую паэзію прынёс М. Кавыль. Мабыць, міне яшчэ крыху часу, пакуль беларускія літаратураведы засвояць сабе (і нам) творчасць эміграцыі, разбяруць яе па часцінках, прааналізуюць, парасkладваюць у розныя шуфлядкі і дадуць некаторыя вызначэнні таго, што стваралася на „эміграцкай ноце”. Але ж, пэўна, мелодыя „параненай душы” будзе ў тых вызначэннях адной з самых выразных і прыгожых. Туга па родным краі, канкрэтна — па родных краявідах, у творчасці М. Кавыля выліваецца ў надзвычай кранальныя і ўражальныя страфы, якія, хоць фармальна й вобразна не дужа мудрагелістыя, падкупляюць затое непасрэднасцю беларускага слова. Кавыль у „пейзажнай лірыцы” хораша адчувае музычнасць беларускай мовы, ейную мілагучнасць — пэўна, невыпадкова тое, што на словы паэта было напісана шмат песняў. Адна з іх — „Васілёчкі” — добра вядомая і нам на Беласточчыне.

Зборнік „Цяжкія думы” — гэта санеты. Рэч надзвычай годная ўвагі — Ніягара думак і вобразаў, што кіпяць і бурапеняць у строга рэгламентаванай плыні гэтага паэтычнага жанру. М. Кавыль праяўляе сябе ў санетах неаспрэчным майстрам:

Квяты вясна кунежыць на кургане,
Напэўна, прыйдзе зь цёплых
тых краін;
На шыр маўклівых, спаленых раўнін
Сінявым вокам баязьліва гляне.

Альбо:

Пярэстай восені пажоўклы сум
Пакратаў струны
йскрыпак адпяяных.
Далёкая у строях саматканых,
Занесла сьмерць халодную касу.

Мне цяжка ўявіць сабе анталогію беларускага санета без прозвішча Міхася Кавыля. Як, дарэчы, без прозвішча яшчэ аднаго эмігранта — Алеся Салаўя.

Несумненна, далёка не ўсё, напісанае М. Кавылём, можна ацаніць нароўні высока, як некаторыя санеты ці вершы з „пейзажнай лірыкі”. Шмат што, напісанае „з нагоды” альбо „па грамадскім заказе”, з'яўляецца адно данінай пэўнага часу, голасам, кінутым у вецер, што дзьмуў найчасцей супроць эмігрантаў. Але ж папракаць паэта ў ягоных творчых праліках я не збіраюся. Бо ж ведама ад сёння, што ў літаратуры застаецца ад паэта самае лепшае, апрабаванае часам і чытачом. На гэты конт, як мяркую, мы можам паспадзявацца. Паэзію М. Кавыля яшчэ чакае будучыня — калі ягоныя творы стануць шырока даступнымі агулу беларускіх чытачоў, калі назоў „беларуская эміграцыйная паэзія” не будзе вынесены ў загаловак асобнага раздзелу, скажам, у падручніку па гісторыі беларускай літаратуры, а ейныя творцы зоймуць месца побач з „братамі па пяру” адсюль, адтуль і адгэтуль, не падзеленыя ні палітычнай, ні якой-кольвечы іншай сцяною. Час гэты, калі так будзе, сёння здаецца не надта ўжо далёкім.

**ЯН МАКСІМЮК**




( Працяг са стар. 4 )

як бы хацеў тое ўнушыць у „Кур'еры...” М. Дабрынін, а міравым пагадненнем! А што гэта абазначае на практыцы?... Тое, што толькі адзін пункт абвінавачання ў адрас Ю. Закрэўскага быў недаказаны, бо і не мог быць, таму што на судовым працэсе не ўдзельнічалі сведкі з Польшчы, на якіх Юрась Закрэўскі, калі б гэтага захацеў, мог спаслацца. Учыніў, аднак, інакш, згодна з традыцыйным нацыянальным характарам беларусаў. Ці ж мае гэта абазначаць, што прайграў, як хоча тое ў „Кур'еры...” унушыць шматлікім чытачам М. Дабрынін? Ці ж трэба яшчэ яму было даказаць іншае?...

Міравое пагадненне Юрася Закрэўскага з М. Дабрынінам і з'яўляецца якраз ягоным бясспрэчным маральным выйгрышам, бо ж у сапраўдным ганаровым паядынку ніякі сапраўдны джэнтльмен не дабівае свайго праціўніка! Дык каму і навошта ўсё гэтае вашае „геройства”, спадар Дабрынін?... І ці пасля сваіх антыбеларускіх выступленняў сапраўды не будуць вас мучыць кашмарныя сны і дакоры сумлення?...

**Іван Кадлубоўскі**

P. S. Ці, карыстаючыся вашым прыкладам, і мы маем падаць да публічнага ведама ваш прыватны адрас?...

**І. К.**

# „ВАСІЛЁЧКІ” МІХАСЯ КАВЫЛЯ

Бываюць паэты, якія сярод свайго народу жывуць хутчэй за ўсё ў падсвядомасці, чымсьці ў свядомым ягоным жыцці. Несумненна, да іх ліку належыць і Міхась Кавыль (сапр. Язэп Лешчанка).

На беларускамоўнай частцы Беласточчыны Міхась Кавыль жыве як паэт з незапамятных гадоў усяго адным спеўным вершам „Васілёчкі”, якім бельскі хор пад той жа назвай часта распачынае свае гастролі (у музычным афармленні Міколы Куліковіча), але ўсяго толькі лічаныя адзінкі ведаюць, што гэты верш-песня якраз ягонага аўтарства. Яшчэ больш здзіўляешся, калі, гартаючы апошнюю кніжку паэта „Міжагнёўе”*/, выдадзеную нядаўна Беларускім інстытутам навукі і мастацтва ў Нью-Йорку пад рэдакцыяй Зоры Кіпель і Янкі Запрудніка, даведваешся, што гэты своеасаблівы гімн беларускага сялянства, якое марыла аб шчаслівай долі, напісаны ў 1943 г. у Мінску.

У біяграфіі народжанага 1 снежня 1915 г. у вёсцы Покаршаў на Случчыне беларускага паэта не можа не ўражваць і тое, што амаль усё сваё жыццё працаваў ён рабочым і тым не менш не пакідала яго паэтычнае натхненне, доказам чаго апошні тоўсты том ягоных вершаў — адметны след у беларускай эміграцыйнай літаратуры. Як піша сам аўтар у аўтабіяграфіі „Мой шлях” да гэтага зборніка: „У Амэрыцы давялося мне працаваць фізычна. Фізычная праца пайшла мне на карысьць. Працаваў спачатку прыбіральнікам у фірме „Сквіб”, а пасьля ткачом у месьце Бандбрук. Працаваў таксама ў Форда, дзе закручваў гайкі, а тады — больш за 20 гадоў скручваў драты ў „Олпродакт ўайэр энд кэйбэл кампані”. Вядома, скручвалі машыны, а я быў апэратарам гэтых машын”.

Але пакуль Міхась Кавыль апынуўся ў далёкай Амерыцы, прайшоў ён праз складаную рэчаіснасць беларускай савецкай дзяржаўнасці трыццатых і саракавых гадоў, пасмакаваў эміграцыйнага хлеба ў Нямеччыне. Спачатку вучыўся ён у сямігодцы ў Грэску і Грозаве, а затым ізноў у Грэску, якую закончыў у ліку лепшых у 1930 г. Затым паступіў у Мінскі педагагічны тэхнікум імя Усевалада Ігнатоўскага на пазашкольны аддзел. Яшчэ ў пачатковай школе напісаў першы верш „Лён” („пад уплывам якогась маладнякоўца, а можа ўзвышэнца”), а ў 1929 г. дэбютаваў ён паэтычным творам „Гудкі”, апяваючы „раньне новых дзён”. Як будучы літаратар Кавыль фармаваўся ў літаратурным гуртку, які існаваў у гэтым жа тэхнікуме і ў якім выступалі тады Максім Лужанін, Сцяпан Ліхадзіеўскі, Лукаш Калюга, Уладзімір Сядура, Сяргей Астрэйка, Францішак Гінтаўт, Сяргей Гайка, Алесь Кучар, Сяргей Русаковіч. У гэты час Міхась Кавыль друкаваўся ў такіх перыядычных выданнях, як: „Маладняк”, „Вясна” — літаратурны дадатак да бабруйскай абласной газеты „Камунар”, „Піянер Беларусі” (пад псеўданімам Язэп Маёвы). І тым не менш хапіла аднаго ілжывага абвінавачання, звычайнага паклёпу, каб дзіцячая гульня ў беларусізацыю пераўтварылася ва ўяўленні даносчыкаў і адпаведных органаў у „контррэвалюцыйнасць”! Па справе міфічнага Саюза вызвалення Беларусі, які невядома ці ўвогуле існаваў, 23 лютага 1933 г. Міхась Кавыль (Язэп Маёвы) разам з Лукашом Калюгай, Максімам Лужаніным, Сяргеем Астрэйкам, Сяргеем Русаковічам, Уладзімірам Сядурам, Сяргеем Гайкам, Францішкам Гінтаўтам і шмат кім іншым быў арыштаваны. У турме сядзеў у адной камеры з Астрэйкам, Гуцькам і Гайкам. Як „вораг народу” паэт быў завочна асуджаны на 3 гады сталінскіх лагераў. З Гінтаўтам і Віталем Калечыцам (мужам Канстанцыі Буйлы) трапіў ён на Сяданстрой на Далёкім Усходзе, адкуль вярнуўся зімой 1936 г. Ці ж трэба тады здзіўляцца, што ў выніку зазнанай ім асабістай крыўды (ды і не толькі асабістай) у Язэпа Лешчанкі ўзнікла ўласная паэтычная здань тадышняй савецкай рэчаіснасці?.. Шмат у чым перабольшаная і не да канца аб'ектыўная, асабліва, калі ён, хоць і будучы рабочым, усё бачыць толькі і выключна ў катэгорыях „камуністычнага рабства”. Пры ўсім гэтым трэба памятаць, аднак, што гэтая здань, вынесеная ім з трыццатых гадоў, засталася ў паэта і па сённяшні дзень (іншай савецкай рэчаіснасці звычайна ён не бачыў). І ці ж можна па гэтай прычыне мець да паэта прэтэнзіі?.. Калі ён нават у сваім уяўленні змагаецца з неіснуючымі ўжо „ветракамі” таталітарнай сістэмы, або яе рэшткамі?.. Таму паэзію Міхася Кавыля трэба разглядаць як даніну пэўнай эпохі, якая ўжо сёння не існуе.

Даніна гэтая, аднак, важная для ўсіх нас, сучасных. І не толькі таму, што паказвае нам другое аблічча гэтай жа сістэмы, але і таму, што паказвае механізмы яе функцыянавання і пачатак дэгенерацыі. Універсалізм жа яе ў тым, што зло і выраджэнне застаецца як быццам ад кожнай з сістэм незалежным, функцыянуе ў кожнай з іх, што пацвярджае сённяшняя сітуацыя ў Польшчы, калі неаднойчы баявікі „Салідарнасці” становяцца аднымі з першых ды найзаядлейшых яе ворагаў!

Для беларускага чытача паэзія Міхася Кавыля мае асаблівае значэнне таму, што нясе яна ў сябе вялікі патрыятычны зарад, хоць у асобных выпадках пазначыўся на ёй уплыў Купалы, Пушкіна, Ясеніна, а нават, як у выпадку паэмы „Пад небам Случчыны каханай”, Канстанцыі Буйлы, што, на маю думку, значна зніжае яе вартасць. Хоць у некаторых выпадках вучоба ў гэтых паэтаў мела і станоўчыя вынікі (для прыкладу, верш „Ой, пайду”). Слабасці і недахопы паэзіі Міхася Кавыля асабліва відаць у вершах ягонага першага зборніка „Ростань”, які выйшаў у 1947 г. у Рэгенсбургу ў Нямеччыне, хоць якраз і ўвайшлі ў яго славутыя „Васілёчкі”. У наступных: „Пад зорамі белымі” (Нью-Йорк, 1954). „Першая рана” (Манчэстэр, 1960), „Цяжкія думы” (Саўт-Рывер, 1961) наглядаецца ягонае сталенне.

Станоўча, як мне здаецца, на паэзію Міхася Кавыля паўплывала засваенне ім, між іншым, такіх лірычных форм, як санет ды рандо (ёсць у яго яшчэ і эпіграмы), а таксама такіх форм строфікі, як сексціна і трыялет, адмоўна — празмерная публіцыстычнасць і насычанасць палітычным зместам. А ўвогуле ягоная паэзія ў цэлым з'яўляецца нейкай своеасаблівай, спецыфічнай для беларускай літаратуры разнавіднасцю эстэтызму, запачаткаванага яшчэ Максімам Багдановічам, а працяг якога бачым у творчасці Наталлі Арсенневай, Хведара Ільяшэвіча, Яўгена Бартуля, Алеся Салаўя ды іншых і які патрабуе свайго грунтоўнага і ўсебаковага даследавання.

У каштоўны для літаратуразнаўцы том „Міжагнёўе” Міхася Кавыля, папярэджаны ўступам на англійскай мове вядомым амерыканскім беларусістам праф. Томасам Бэрдам, увайшлі таксама вершы і паэмы беларускага эміграцыйнага паэта, якія раней не былі надрукаваныя ў паэтычных зборніках. Акрамя гэтага, перакладзеныя ім жа паэтычныя творы з англійскай, расейскай, украінскай і польскай моў на беларускую, а таксама пераклады вершаў М. Кавыля на іспанскую, славенскую, украінскую і польскую мовы. У канцы зборніка прадстаўлена проза пісьменніка і надзвычай каштоўная для даследчыка „Бібліяграфія твораў Міхася Кавыля і літаратура пра яго ды ягоную творчасць” у апрацоўцы Зоры Кіпель.

Чацверты з серыі том „Міжагнёўе” (пасля выдадзеных раней Беларускім інстытутам твораў Наталлі Арсенневай, Алеся Салаўя і Аляксандры Саковіч) — гэта надзвычай каштоўны ўклад у дакументацыю беларускага духоўнага жыцця на чужыне.

**ЮРЫ ТРАЧУК**

---

*/ Міхась Кавыль, Міжагнёўе. Выбраныя творы, Беларускі інстытут навукі й мастацтва, Нью-Йорк 1990, сс. 344 + XXI.

# ЯК ТУТ ДАЦЬ РАДЫ?

Мой Ігар ідзе ў школу, у першы клас. Паўлік таксама ахвотна пайшоў бы, бо ж любіць рабіць тое, што і брат, але гадочкі яму толькі два з паловаю... Бедны Паўлік, будзе пагдядаць з зайздрасцю на тарністар, кніжкі і сшыткі свайго брата, і пытацца, а калі і яму купім... А пакуль што — Паўлік заўзята ставіць каракулі на паперы, рысуе, а потым усё рве датла. Добра, што хоць аловак трымае ў правай ручцы. Ігар піша левай рукою, і лыжку трымае таксама ў левай. Нешта ад бацькі яму пайшло, які, хоць піша правай, то і нож трымае ў левай, і шнуруляе з левай, і што там яшчэ...

Калі пішу, астаецца ўсяго чатыры дні да школы, а ў Ігара яшчэ нічога няма — і абутку адпаведнага, і кашулі, і падкашулек на заняткі па фізкультуры. Нават сшыткаў няма... Калі бацька прынясе выплату, трэба будзе добра завіхацца, каб з усім справіцца. Купляць, пэўна, будзем з Паўлікам — ён любіць хадзіць са мною па крамах. Нячаста такое здараецца, бо да паўмесяца ўсе грошы сыходзяць з рук — і далей рабі сабе што хочаш... Ігар цэлымі днямі прападае на двары, забаўляецца з сябрамі... Ад яго вялікай падмогі ў будучыні не дачакаешся — шалапут. Бацька таксама цэлымі днямі не бывае дома — усё арганізуе выбары, ездзіць збіраць подпісы і разы два ў тыдзень ходзіць на нейкія пасяджэнні. Вяртаецца дахаты пад поўнач, галодны і злосны. А ў хаце сцены непамаляваныя... То ўзяла сама й памалявала... Бацька не пасобіў ні за грош. І ўсё яшчэ бурчаў, што аніякага малявання не акцэптуе, нібыта яму фарба смярдзіць і ён не можа засяродзіцца, ніякага артыкула ў „Ніву" напісаць не можа... Яму жыць — абы-дзе, абы толькі знайшлося месца паставіць пішучую машынку і было на чым згатаваць гарбату... З аднаго боку — гэта пякепска, калі муж якраз такі непатрабавальны да матэрыяльных умоваў жыцця, але з другога — і слоў шкада... Купіў сабе новыя боты, спецыяльна на „Басовішча" ў Гарадку, ды там узяў і пакінуў іх... І зараз ходзіць на працу ў старых растэпаных, падэшвы ўжо адвальваюцца.

Каб не дапамагалі бацькі, і мае, і яго, то не ведаю, як мы далі б сабе рады. Грашмі бацькі не дапамагаюць, бо і скуль іх узяць, але час-часам дастаем агародніну, крыху мяса, яйкі, хлеб. Мая свякруха пячэ вельмі смачны хлеб, сапраўдны хлеб, вясковы, духмяны... Хлопцы яго ядуць без нічога, Ігар любіць яшчэ пацерушыць соллю, ну а Паўлік — тое самае, што й брат... От, жывем усё яшчэ ў сваіх бацькоў, як кажуць, „на гаршку"... І смешна, і сумна... А як сабе даюць рады тыя, што нікога на вёсцы не маюць?

Наступае тое, што й павінна наступіць у ранняй стадыі капіталізму — люмпенізацыя інтэлігенцыі... Так кажа мой Макс. Што ён тут мае на ўвазе? Мне б хацелася, каб у яго былі новыя добрыя боты на нагах, а не такая тэрміналогія ў галаве.

Ігар страх колькі чытае. Калі хадзіў у нулявы клас, пані сказала, што ён чытае на ўзроўні сярэдняга вучня чацвёртага класа. Бацька навучыў яго чытаць толькі па-беларуску, калі і як ён навучыўся чытаць па-польску — гэта загадка... Нічога дзіўнага тут няма, удаўся ў бацьку (вось так нясціпла тлумачыць гэтую загадку Макс). Але і сам ён аслупянеў, калі год назад Ігар прыйшоў і заявіў, што запісаўся ў бібліятэку, бо тамака цікавейшыя кніжкі, чымсьці ў нас дома... Бібліятэкарша, апавядаў Ігар, сумнявалася, ці ён умее чытаць, і дала яму пачытаць на спробу нейкія банальныя дзяцінныя вершыкі... А ён жа да гэтай пары адолеў ужо аб'ёмісты раман з гатунку саенс-фікшэн... Улюбёнай кніжкай Паўліка з'яўляецца агульная энцыклапедыя — звыш тысячы старонак. Кніга, хоць і салідна выдадзеная, ужо ледзь трымаецца...



*Ігар і Паўлік з татам - „вывучаюць" англійскую мову.*
**Фота А. Максімюка.**

Што будзе далей? Надзеі на тое, што ў бліжэйшыя гады атрымаем сваю кватэру, няма аніякай. А хлопцы ўсё растуць — і ўсё больш ім трэба квадратных метраў. Макс пра гэта не думае нічагусенькі. Яму добра. А ўсё на маёй галаве...

**ГАЛІНА МАКСІМЮК**



*За пішучай машынкай - Ігар у ролі кансультанта.*
**Фота Я. Максімюка.**

# СУСТРЭЧА З БЛАКІТНАЙ ПТУШКАЙ

**Апавяданне**

**Уладзімір Малашкевіч**

Не раз я бываў у гэтым партовым горадзе. Таму ведаў яго не кепска. Але кожны раз адкрываў для сябе нешта новае. Вось і сёння знайшоў цікавае кафэ. Галоўнае, што тут стаіць прахалода нават у самую вялікую спякоту. Мо, таму, што яно размяшчаецца ў склепе старога дома, пабудаванага яшчэ немцамі, да першай сусветнай вайны, калі не мыляюся. Але справа зусім не ў гэтым.

Прысеў ля сівачастага акна з каляровымі шыбінамі. Як толькі гэты вітраж вытрымаў? Пад час вайны горад быў знішчаны дашчэнту.

У чаканні афіцыянткі разглядаў томікі, набытыя ў тутэйшых кнігарнях...

Нарэшце пачуў крокі. Узняў галаву, каб зрабіць заказ... У грудзях стала горача. Няўжо яна? Прыглядзеўся. Сумненняў не магло быць: на бляшаным значку на белай блюзачцы афіцыянткі стаяла імя і імя па бацьку.

— Добры дзень, Ліля Іванаўна, — ціха прывітаўся я.

— Здравствуйте, — афіцыйным голасам адказала жанчына.

— Няўжо не пазнаеш, Ліля?

— Извините, но я вас не припоминаю, — не адрываючы вачэй ад блакноціка, буркнула гаспадыня кафэ.

Я добра разумеў яе. У кафэ штодзённа бывае шмат людзей. І не ўсе паводзяць сябе так, як трэба.

— Прыглядзіся лепш, — ціха, але настойліва параіў я. — Не можа быць, каб мой беларускі акцэнт нічога не прыгадаў табе.

Ліля перавяла позірк на мяне. Маленькія рукі жанчыны задрыжэлі.

— Цяпер прыгадалі?

— Не зусім, — прызналася афіцыянтка. Але я заўважыў, што вусны ў яе перасохлі. Тады вырашыў дапамагчы ёй.

— У вас ёсць радзімчык. Вельмі прыгожы. Хочаце, скажу дзе?

Жанчына запунсавела. Таму што бачыць гэты радзімчык мог толькі той чалавек... Што я нарабіў?! Трэба было тэрмінова ратаваць становішча, бо яна можа падумаць...

— Ліля, няўжо ты забылася пра блакітную птушку?

Вочы жанчыны сталі шырокімі-шырокімі.

— Васілёк, — дрыготкім голасам выгаварыла Ліля.

— Пазнала-такі, — з палёгкай уздыхнуў я. — Кажы пра сябе. Як жывеш? Чым займаешся?

— Чым займаюся, сам бачыш, — чамусьці сумна адказала Ліля. — А як жыву? Пасля школы хутка выскачыла замуж, хутка нарадзіла блізнятак, хутка развялася...

— У цябе ўсё так хутка, што аж галава кружыцца, — пажартаваў я.

— Што зробіш, відаць, такі мой лёс, — Ліля паправіла валасы.

— Як з марамі? — запытаў я. — Што збылося?

— Бачу, і ў цябе не ўсе мары здзейсніліся, — заўважыла Ліля.

— Не скажы, — занярэчыў я рашуча. — Мая прафесія дазваляе мне многа падарожнічаць. Гэта і было маёй галоўнай марай, калі ты яшчэ памятаеш.

— У дзяцінстве аб чым толькі не марыць, — задуменна адгукнулася Ліля, гледзячы, як па баку высокай шклянкі з напіткам сцякае буйная раса, падобная да слязы.

— У юнацтве, — удакладніў я.

Так, гэта было ў юнацтве. У доміку з чырвонай цэглы, што стаяў на беразе возера, пасяліліся дачнікі. З той пары вясковых хлапчукоў бы хто падмяніў. Яшчэ вада не прагрэецца, а ўжо ляжаць на траве-мураве ды цікуюць за тым берагам. Як толькі з-за вугла хаты паказваюцца зграбныя постаці сясцёр, хлапцоў бы віхура падымала. Усе, як па камандзе, кідаліся ў ваду. І навыперадкі плылі да дачніц. Тыя голасна падбадзёрвалі іх. Таму, хто прыплываў першым, у якасці ўзнагароды давалі вялікі яблык

Адзін я не звяртаў увагі на гарадскіх. Ляжаў у цяні вербалозу і кніжкі чытаў.

Аднаго разу пачуў над сваёй галавой незнаёмы мне голас:

— Ты што, плаваць не ўмееш?

Вось дык сказанула! Хто гэта з хлопцаў нашага сяла не ўмеў плаваць! Тым больш я.

— А я цябе ведаю, — бы аса над салодкім, — гула над маёй галавой незнаёмка. — Ты марыш стаць мараком.

Ніколі не думаў, што мае сябрукі маюць такія доўгія языкі.

— Не мараком, а капітанам, — злосна буркнуў я.

— А капітан што, не марак? — рассмяялася дзяўчынка.

— Капітан ёсць капітан, — стаяў я на сваім.

— Калі вырасту, таксама стану вадзіць караблі.

— Дык дзяўчынак у флот не бяруць, — не без радасці аб'явіў я.

— Возьмуць, — упэўнена заявіла балбатуха.

— Што б гэта было...

— Мой тата — дырэктар мараходкі.

Цяпер я не мог не падняць галавы. Уважліва агледзеў дзяўчынку. Стройная, загарэлая, малюпасенькая. На круглым тварыку, як дзве вішанькі-чарэшанькі, іскрыліся жывыя вачаняткі.

— Васіль, — прадставіўся я. Мае добрыя манеры вялікага ўражання на дзяўчынку не зрабілі. Яна чуць заўважна прысела, падала мне руку і сказала:

— Ліля.

І я адразу падумаў, што яе імя нагадвае лілеі, якіх многа зіхацела на вадзе.

Мы пасябравалі. Я завёў яе ў былы панскі парк і пазнаёміў з вавёрачкай. Не

# КАЛІ З ЛЮДЗЬМІ...

У нас заўсёды размаўлялі па-польску. А мая братавая была ў Кляшчэлях у дачкі, там гавораць „па-хахлацку”, а дзяцей вучаць па-польску, каб у школе было лягчэй! Размаўляюць па-польску, але калі дома пачынаецца якаясь „завіруха”, сварка, крыкі, то кожны крычыць „па-просту”. Дзеці ўмеюць і так, і так...

Сярод нас, на Сакольшчыне, жыло шмат беларусаў, і праваслаўных, і не. Хадзілі мы да сябе на святы, песні, малітвы. То ж людзі моляцца за тое самае, за дабро, да аднаго Бога. І жаніліся між сабою. Адна суседка хадзіла спяваць на мярліны да польскіх псалмы, то сказалі бацюшцэ, а ён кажа: „Харошы чалавек моліцца да Бога...

... 80 гадоў, але без акуляраў выдатна ўсё бачу. Калі б у людзей было такое здароўе, няглядзячы на жыццё, то, дзякаваць Богу, шпіталі стаялі б пустыя, а ўрачы былі б безработнымі. Не мела я ніякіх перацыяў, ні боляў, такіх, каб не стрываць. Калі балеў страўнік, піла палын ці іншае зелле. Але што ж гэта за хваробы!

Тры клясы маю, але адразу паслалі мяне ў другую, такую памяць мела. Калі я была малая, прывезла цікавы верш дзяўчына з Гародні. Стары гэта верш. Па-беларуску. Дагэтуль я яго на памяць ведаю. Называецца „Страшны суд”. Паслухайце:

„Паслухайце ўсе людзе, як то на страшным судзе будзе. Хто, братэ, з нас жыў за грэхам, таго Бог будзе караць не смехам. Хто ні жыў як было трэба, той ні спадзяецца ніколь да неба. Страшны суд той будзе скора, вось тагды нам будзе гора. Прышлець Бог святога Міхаіла ў трубу трубіць, усіх людзей на суд будзіць. Трубы страшныя заравуць, ураз усіх людзей збяруць. Хто ўдома ўміраў, хто на снегу замярзаў, хто ў возеры на дне, хто забіты на вайне, у магілках хто схаваны — усе тагдэ людзе сазваны. І так многа збярэцца, што аж зямля задрыгнецца. А тагдэ Бог прыдзе з неба, добрых управа ўсіх папросіць, а злых налева пазносіць. Вось палыпаем ачамі, як увідзім з рагамі. Добрым усім Бог скажа: як вы жылі не абы-як, цярпелі для Крыжа святога, дый ку небу вам дарога”, а грэшным: „Прэч ідзіце” скажа і на пекла пальцам пакажа. Вось куды вам будзе дарога, хто не слухае Бога! Можа, і вы хацелі ў неба, дый павядуць вас куды трэба. Не адзін з вас адрыгнець, як у пекла чорт папхнець і па лбе кіем пагладзіць! Будзе там табе ні ў пасцелі! Ксёндз казаў ні раз у касцелі: „Ні грашэця мае дзеці, цяжка будзе на тым свеці. А вы слухаць ні хацелі, толькі ў карчму ляцелі, а ў карчме дый напіліся, а напіўшысь пабіліся, а за гэтую за драку будуць вас пячы як ракаў!” Ты, што Бога ні баяўся, бацьку, мацеры надрыгаўся, мусі чорт табе памог, казаць на бацька „каб ты здох”, а на мацяру „каб прапала”, будзе табе і пекла мала! Не адна душа ў смале кіпіць, таго, хто гэтак гаварыць! Скажаш: „Ратуй, мама, ратуй, тата, а то ў пеклі цяжка надта!” Затупчаш ты, браце, казачка, што не сцебалі цябе розачкай, заравеш ты немым быкам, што не быў праз бацька бітым!” Ага, пачакай ты, дачушка, будзе і табе закуска, мацяры слухаць ні хацела, толькі вымысца каб бела, і прыбрацца каб па модзі, яшчэ і грыўку падстрыгаець і цвячочкам напякаець, як накруціць, навалкуець дый шчочкі падмалюець, і смяецца з другіх, што пакорнейшэ за ніх, што яны ня ўмеюць маляваць і сваіх грывак настаўляць, а ў касцёл калі як прыдзя, ды каб толькі мальца відзяць, Богу пацяры складая, а на мальцы пагладая, каб каторы палюбіў і дадому правадзіў! Ты думала, што мінулася, а цяпер адрыгнулася. А тагдэ экольсьціка знайшлося і дзіця, дзвіўцца, адколь якое, было адно, цяпер другое! Вось, дачушка, знай — за гэта намалюююць добра скуру, зробяць яе як бандуру. Будзе і мацяры пекла, чаму бізуном не секла. Папакутвай за дзяцей, што не секла іх часцей. Бацько, маці, та ж і дзеці, што ні так жылі на свеце. Вось, мой мілы тата, якая табе будзе заплата. Ага, ты дачушка, будзе табе яшчэ горшая закуска. Будзе табе ліха, як чэрці браць будуць ціха. Не будуць ні ў кога пытаць, як цябе будуць браць. Ні ў бацька, ні ў маткі, ні папросяць буталь водкі, а будзеш піць смалэ палушочкі, аж падпухнуць твае вочкі, а за кожду лішню чарку будуць грэць смалу на карку. А хто за паўкварты прысягнець, той усёй у смале паплывець. Ага, пачакай ты, старшына, будзе і табе прычына, што ты грошы дармо браў, усіх бедных абвіняў, што ты бедных не любіў і па-праўдзе не судзіў! За багатымі ўсё браўся, а пра бедных забываўся, ляцеў на дармовую водку і залівіў сваю глотку. Хто на водку рубля даў, за тым на судзе стаяў. Хто рубелька палажыў, таму пячатку падлажыў. Там на гэто не зважалі, што ты хадзіў пры медалі. Упіхнуць чэрці старшыну ў самую глыбіну, і наложаць там пячатак ад галавэ аж да пятак!”

Гэта вельмі стары верш, паглядзіце словы: „старшына”, значыць, войт... Мы ад Сідры 6 кіламетраў, наш войт быў Яцуньскі... І я Яцуньска па мужу, а сама са Сыліжэўскіх. Муж казаў, што прозвішча Яцуньскіх загіне, бо ўсё дачкі радзіліся, але сын нарадзіўся, і ён ужо сам дзедка! Ай, цяжка жылося. Цяжка жылося, 40 гектараў, а быў такі час, што гектары былі грэхам, і людзей за гэта вывозілі... Цяпер я ў Беластоку, дапамагаю яшчэ дочкам, унукам, праўнукам. Праўнукі называюць мяне „бабуля-старушка”, каб адрозніць ад бабуль, маіх дачок. „Хто цябе навучыў столькі вершыкаў?— пытаюцца праўнукаў у прадшколлі. Вядома, хто — „бабця-старушка”, якая мае для праўнучкаў час... Я цэлае жыццё такая худзенькая, і лёгка мне. Вядома, быў час, калі чалавек не даеў, а калі нават і было што есць, не было калі, бо пасля працы чалавек толькі спаў бы. Такая на гаспадарцы зарадка, што скінеш з жывата кожны кілаграм! Калі пераехала ў Беласток, працавала старожкай у кіне „Покуй”, потым у іншым месцы. Пенсія ў мяне неблагая, даю дачцэ „на жыццё”, наеду кудысьці, свет паглядзець, унукам штосьці куплю, бо бабуля паважаная, калі з гасцінцам прыйдзе, вядома...

Не ўсяджу на месцы. Мы, старэчы, арганізаваныя, трымаемся. Па 5-6 раз летам едзем на экскурсіі, едзем аўтобусам, я спяваю, распавядаю анекдоты. Молімся, бо што Божае — Богу, а што „царскае” — наша. Былі на паломніцтве і ў Кодні, і Святой Ліпцэ, і ў Гечвалдзе... Трэба варушыцца. Я тады не адчуваю ні старасці, ні хваробы. Калі я з людзьмі, не адчуваю адзіноцтва. Не маю такога звычаю распавядаць сваіх цяжкіх перажыванняў. Калі хто пытае, як жыву, адказваю: „Я бяду пакінула дома, няхай яна там спіць.” Гэта добры спосаб на жыццё. Каму мая бяда патрэбная? У нас зрабілі на дачных участках „учасы”, адпачынак для такіх старэнькіх, як я. Калі я іду, кажуць: „О, Яцуньска ідзе, гэта та скажа і да смеху, і да слыху”. Адзін мужчына (сярод нас, бабуль, было іх хіба з пяцёх), з-пад Гайнаўкі, кажа: „Што з яе было, як была маладая!” Што ж, трэба ўсміхацца!

**Запісала**
**МІРА ЛУКША**



*„Бабця-старушка з праўнучкай”.* *Фота М. Лукшы*

************************************************************

паспела Ліля ахнуць, як у мяне на плячы сядзела вавёрачка. Я знайшоў яе ранній вясною пад дрэвам. Хтосьці разбурыў гняздо і малое выпала на траву. Прынёс дамоў і выхадзіў. Калі вырасла, выпусціў на волю. Вавёрачка жыла ў парку. Варта было мне прыйсці сюды, пашчоўкаць языком, як яна тут жа прыбягала. З'еўшы ласункі, якія я прыносіў ёй, вавёрачка адпраўлялася на дрэвы.

— У нас у школе ёсць жывы куток, — сказала Ліля. Яе словы насцярожылі мяне.

— Што ты хочаш сказаць гэтым? — спытаў я.

— Каб мне такую вавёрачку. Колькі было б радасці!

— Звяры і птушкі любяць волю.

— Навошта тады заалагічныя паркі? — успыхнула Ліля.

— Каб была мая воля, забараніў бы трымаць жывёл у няволі, — катэгарычна заявіў я.

Мы пасварыліся. І праз колькі дзён я не хадзіў на возера. Не хацеў яе спаткаць. Але думаць пра яе не пераставаў. Цэлы час перад вачыма стаялі ямачкі на шчоках. Калі яна смяялася, я глядзеў на іх, як загіпнатызаваны.

Наступіў дзень, калі я вырашыў адправіцца на возера. Прачнуўся рана, калі сонца яшчэ вісела над садам. Тата, як заўсёды, быў на працы. Мама затрымлівалася на ферме. Паснедаўшы, узяўся за справу. Найперш адпрасаваў штонікі і белую кашулю. Адмачыў парэпаныя пяткі, абрэзаў на руках і нагах пазногці, стаў перад люстэркам. На мяне ўтаропіўся чорнавалосы, круглатвары, з аблупленым носам, хлапец. Падабаліся толькі вочы: карычневыя, як спелыя каштаны.

— Ты, часам, не закахаўся? — пачуўся ад дзвярэй вясёлы мамін голас.

Нібы электрычным токам прашыла мяне. А што, падумалася, калі і Ліля здагадаецца? Зрабілася страшна. Замест таго, каб пайсці, як пастанавіў раней, на возера, вырашыў застацца. Але не дома. Накіраваўся ў сваю схованку. Аб ёй ведаў толькі я.

Схованка была на старым каштане. Дзесьці я чытаў, што каштаны растуць да пяцісот гадоў. Мой быў не маладзейшы. Ён пачаў сохнуць з вершаліны. Яе спілавалі на дровы. Астаўся тоўсты камель. Прайшло колькі год і каштана не пазнаць. Такога прыгажуна на ўсім свеце няма другога. Маладыя галіны ўтварылі нешта накшталт шатра. Вось у гэтым шатры і была мая схованка. Тут я часта чытаў свае ўлюбёныя кніжкі, марыў, прабаваў пісаць вершы.

Сёння прыйшоў сюды, каб разабрацца ў сваіх пачуццях. Ніколі не думаў, што яны могуць прынесці столькі турбот і перажыванняў. Варта было мне падумаць аб нечым, як побач адразу паяўлялася Ліля. Яе гнуткая постаць і маленькія грудзі вярэдзілі маю юначую душу.

Сваю схованку пакінуў пад вечар. І адразу наткнуўся на Сяргея Смурагу.

— Дзе ты прападаеш? — наляцеў ён на мяне.

— А што?

— Сёння ж жаночы дзень!

— Падумаеш, — скрывіўся я, даючы да зразумення, што гэта мяне ўжо не цікавіць.

—Сёння мыліся дачнікі, — рагочучы, працягваў Сяргей. — Мы схаваліся на чаромсе і бачылі, як яны бегалі голыя да рэчкі па ваду.

— І Ліля?! — вырвалася ў мяне.

— А як жа! — самавіта адказаў Сяргей, зрабіўшы вочы круглымі. — У яе вось тут радзімчык!

Не размахваючыся, я ўдарыў Сяргея. Той паляцеў у крапіву.

— Дурак! — крыкнуў ён мне наўздагон. — Можна падумаць, што сам не падглядваў.

На другі дзень я сядзеў пад клёнам, трымаў на каленях кніжку, але чытаць не мог. Перажываў тое, што ўчора здарылася. Баяўся, што Сяргей раскажа пра выпадак сябрам, тыя пачнуць смяяцца. І ўрэшце рэшт усё дойдзе да Лілі. І хай! Падумаеш, вялікая справа.

Тут я заўважыў, як сярод дрэў замільгацела белая сукеначка. Маё сэрца затахкала ад радасці. Ужо падхапіўся, каб бегчы насустрач, як раптам убачыў Сяргея і Ваню. Яны крочылі побач з Ліляю. Вечна галодны Ваня жаваў жудасна кіслы цыбук конскага шчаўя. Сяргей штосьці апавядаў, размахваючы рукамі. Ліля залівалася ад смеху.

— Мы ідзём на арэхі, — выпаліла Ліля, падышоўшы да мяне. —Айда з намі!

— Не магу, — стрымана адказаў я. — Бацькі паехалі на базар.

— Хата ж не з каўбас, — вышчарыўся Ваня, — сабакі не расцягнуць.

— Чацвераногія не расцягнуць, — падкалоў я Ваню, — затое ёсць на двух нагах, вось ад іх і трэба берагчы.

— Я не ведала, што такая справа, — спахмурнела Ліля. І гэта мне спадабалася.

Калі ўсе пайшлі, я задумаўся над сваім горкім лёсам. Ні тата, ні мама нікуды не паехалі. Проста я не хацеў, каб побач з Ліляй былі гэтыя падшыванцы, якія яшчэ зусім нядаўна былі маімі сябрамі. А цяпер сталі заклятымі ворагамі, і я вельмі дзівіўся, што цікавага можна знайсці ў іх. Праўда, Сяргей выдатнік. Ваня ж гультай ды абібок. Толькі вось майстраваць любіць. Сам зрабіў санкі, канькі, драўляны веласіпед. Цяпер будуе аэраплан. І я ўпэўнены, што ён паляціць на ім. Будуе яго на старых могілках, якія знаходзяцца на высокім беразе. Адтуль латва ўзляцець. Аб гэтым ведаю адзін я. Ваня больш нікому не давярае. А калі раскажа Лілі?

Астатняя думка напужала мяне. Таму я вырашыў дзейнічаць. На другі дзень пайшоў на возера. Калі мы з Ліляй засталіся сам на сам, запытаў яе:

— Што для цябе самае дарагое на свеце?

— Тата і мама, — не задумваючыся, адказала дзяўчына. Потым дадала: — І яшчэ... Не, тата і мама.

— Прысягні на іх, што не здрадзіш маёй таямніцы.

— Дык я ж не ведаю, пра што ты... Цікавы ты чалавек, Васілёк, — задуменна загаварыла Ліля, палошчучы ногі ў вадзе. — Толькі паказаў

**( Працяг на стар. 8 )**

 

# НОВЫЯ КАРТЫ, НОВЫЯ ІНФАРМАТАРЫ

Любіцелі Беласточчыны могуць у апошнім часе лепш пазнаёміцца з нашай зямлёй, вывучаючы карты, якія пачалі паяўляцца на кніжным рынку дзякуючы змякчэнню правілаў аб сакрэтнасці дзяржаўных і вайсковых тайнаў.

У мінулым годзе выдавецтва „Вэрсус" і Акруговае геадэзійна-картаграфічнае прадпрыемства ў Беластоку выдалі турыстычную карту і „Турыстычны даведнік" да яе пад загалоўкам „Беластоцкае ваяводства". Маштаб карты — 1:180.000.

У гэтым годзе Вайсковае картаграфічнае прадпрыемства выдала карту сярэдняй Беласточчыны — „Ландшафтны парк Кнышынскай пушчы", турыстычна-краязнаўчую карту, апрацаваную на рысунку вайсковай тапаграфічнай карты ў маштабе 1:100.000, значыць, у два разы больш дакладнай, чым карта „Вэрсуса". Карта ландшафтнага парку прадстаўляе абшар паміж мяжой Польшчы на ўсходзе і лініяй Калінувка Косьцельна-Кнышын-Харошча — на захадзе; лініяй Калінувка Косьцельна-Саколка — на поўначы і лініяй: Харошча-Беласток-Жэдня-Гарадок-Свіслачаны — на поўдні.

На гэтай карце, апрача падрабязнага паказання, характэрным для вайсковых тапаграфічных картаў спосабам, тэрытарыяльнага становішча, прадстаўлены турыстычна-краязнаўчы змест: аб'ём запаведнікаў і ландшафтных паркаў, турыстычныя шляхі, цэрквы, касцёлы, капліцы і іншыя помнікі старажытнасці, музеі, археалагічныя раскопкі, помнікі прыроды, матачнікі звярыны, месцы баёў і пакутніцтва жыхароў, а таксама станцыі, прыпынкі, пошта, гатэлі, турыстычныя базы, і г.д. На карце знойдзем назвы пушчаў: Крынскай, Гарадоцкай, Блудаўскай, Адэльскай, якія цяпер называюцца Кнышынскай пушчай. На другім баку карты ёсць план арбарэтума ў Копнай Гары, што на ўсход ад Супрасля, пры шашы ў Крынкі (арбарэтум — гэта абшар, дзе растуць рэдкія віды дрэў, кустоў і іншых раслін; у Польшчы ёсць толькі некалькі арбарэтумаў).

На другім баку карты змешчаны таксама інфармацыі аб некаторых мясцовасцях з карты. Каштоўнае ў гэтым ёсць тое, што апынуліся там урэшце праўдзівыя гістарычныя інфармацыі, між іншым, пра заснавальнікаў манастыра ў Супраслі. Напісана там: „Супрасль — горад, заснаваны праваслаўнымі манахамі, якія прыбылі сюды ў 1500 годзе з Гарадка. У 1503-11 гадах набудавана тут царква і праваслаўны манастыр". А пра Гарадок: „ У XV ст. — галоўная сядзіба Хадкевічаў, якія збудавалі тут замак і праваслаўны манастыр (манашаская абшчына перанесена пасля ў Супрасль)." Пераважна ў розных польскіх публікацыях пішацца, што манастыр заснавалі базыльяне, уніяты. Так пішуць і ў „Турыстычным даведніку" — дадатку да карты „Вэрсуса". Цытую: „Супрасль — сюды ў 1500 годзе з суседняга Гарадка перабраліся базыльяне..." „Грудэк — быў сядзібай Хадкевічаў, якія ў 1498 годзе фундавалі тут кляштар базыльянаў...".

У даведніку „Вэрсуса" шмат такіх несвядомых ці свядомых памылак. Такім чынам садзейнічае ён тварэнню новых „белых плямаў" у гісторыі Беластоцкага краю. Я падаю некалькі цытатаў:

1. „У Беластоцкім ваяводстве, апрача палякаў, пражываюць а к т у а л ь н а беларусы, нешматлікія рускія і




татары." *Ці „актуальна" значыць „часова"?*

2. „Капліца каталіцкая св. Марыі Магдалены" ( д. рымска-каталіцкая) з 1758 г. — *пішацца там так пра царкву Марыі Магдалены ў Беластоку, якая ніколі не была касцёлам.*

3. „Бельск Падляшскі... даўні град рускі з XI ст., ад XIV ст. град л і т о ў с к і." *Ці Бельск страціў тады свой рускі характар, бо большасць жыхароў была жмудзінамі?*

Густа ў „Даведніку" ад фармулёвак „царкев православна — давней уніцка". А праўда такая, што уніяцкі касцёл пераняў толькі праваслаўныя аб'екты, а ніводзін рымска-каталіцкі, а праваслаўная царква пераняла назад пасляуніяцкія аб'екты, гэта значыць тыя, якія раней былі яе ўласнасцю.

У „Даведніку" старанна прамаўчана тое, што некаторыя цяперашнія каталіцкія касцёлы даўней былі цэрквамі ( у Бранску, Сухаволі, Кнышыне, Суражы, Ружанастоку, Мілейчыцах, Беластоку-Дайлідах і г.д.).

Часта падкрэсліваецца: „Касцёл рымска-каталіцкі, збудаваны на месцы касцёла з 1565 года" ( у інфармацыі аб Саколцы), але нідзе не пішацца пра цэрквы, збудаваныя на месцы папярэдніх. У „Даведніку" заўважаецца намеранае заціранне старажытнага радаслоўя і аўтанамічнасці беларускасці і праваслаўя на Беласточчыне.

Думаю, што ў сувязі з гэтым мы не павінны купляць карты і даведнік выдавецтва „Вэрсус", каб гэтым спосабам заахвоціць выдаўца да крытычнага падыходу і рэцэнзіі апрацаванняў недабрасумленных „навукоўцаў" ці, лепш сказаць, псеўданавукоўцаў, якія апярэцілі „белымі плямамі" „Даведнік".

Карыстайма з карты „Ландшафтны парк Кнышынскай пушчы" („Парк Краёбразовы Пушчы Кнышыньскей"), у якім няма такіх „памылак". Неўзабаве можна будзе камплектаваць тапаграфічны турыстычна-краязнаўчыя карты цэлай Беласточчыны — Вайсковае картаграфічнае прадпрыемства з Варшавы рыхтуецца да выдання такіх картаў для іншых яе абшараў.

**ЮРЫ ЗЮЗЯ**

***

# СУСТРЭЧА З БЛАКІТНАЙ ПТУШКАЙ

**( Працяг са стар. 7 )**

захапляючага. Вожык, якога ты падарыў, ужо навучыўся піць малако.

— Я магу табе даць яшчэ і сароку.

— Мы кожны год пішам сачыненне на тэму: „Як я правёў школьныя канікулы". Гэтым разам маё сачыненне будзе самым цікавым. Упэўнена.

— Толькі не пішы ў ім пра блакітную птушку! — раптам вырвалася ў мяне.

— Дык гэта і ёсць твая таямніца... — здагадалася Ліля.

— Вельмі вялікая.

— Не разумею.

— Мой тата гаворыць, што такіх птушак засталося на свеце вельмі мала. Таму іх трэба берагчы.

У Лілі загарэліся вочы. Яна ўжо адчувала вялікую прыгоду.

— Калі ты пакажаш яе мне?

— Хоць бы і сёння.

— Ідзем!

— Вечарам. На самым захадзе сонца. Гавораць, што сэрца, якое кахае, не прадчувае бяды. Гэта так.

Мы з Ліляй сядзелі ў самым гушчары арэшніку. Два рады елак цягнуліся да закінутай панскай лядоўні. Па алеі рэдка хто хадзіў. Яна зарасла высокаю травою. Відавочна, птушку прывабіла цішыня. Кожны вечар яна прылятала сюды, сядала на сухую галіну, і тут начавала. Вось і сёння прыляцела на самым захадзе. Мы, затаіўшы дух, сачылі за ёю. Вось яна паправіла перыны і ў той самы момант у промнях заходзячага сонца палыхнуў блакітна-сіні прамень. Ліля ахнула. Потым, як зачараваная, не магла адарваць позірку.

— Божа! Якая цудоўная птушка! — захаплялася мая сяброўка.

Калі ад птушкі застаўся адзін чорны сілуэт, мы накіраваліся дахаты.

Затрымаліся на мосце. Пад ім шумела вада. На возера лягла залатая стужка ад месячыка. Ён вісеў цёмнаю сцяною алешніку.

— Як называецца гэтая птушка? — пытала Ліля.

— Добра не ведаю, — адказаў я. — Мама гаворыць, што сізаваронка. Але я не веру.

— Птушку трэба паказаць спецыялісту. Арнітолагу.

— Якія арнітолагі могуць быць у нас?!

— Затое ёсць у нашым горадзе.

— Ці ты не хочаш сказаць, што арнітолаг паедзе ў нашу вёску?

— Я табе ўжо гаварыла, што ў нашай школе...

— Пра гэта мовы не можа быць, — рашуча запярэчыў я.

У гэты момант стукнулі веснічкі. Лілю паклікалі дамоў. А я застаўся на мосце адзін. І доўга думаў. Бо і было над чым. Хацелася ведаць, чаму гэта людзі так любяць мець усё прыгожае толькі для сябе.

На другі дзень я пайшоў вечарам у парк. Вырашыў спілаваць сук. Калі яго не будзе, птушка знойдзе сабе другое месца. Але я прыйшоў позна. Ліля стаяла пад елкай. З ёю былі і Сяргей з Ванем. Усе стаялі з апушчанымі галовамі. І глядзелі сябе пад ногі. Там, на траве, ляжала блакітная птушка. Яна была прабіта стралой. Толькі цяпер я заўважыў у Ваніных руках лук.

— Што вы нарабілі?! — закрычаў я, кінуўшыся да птушкі.

— Мы толькі хацелі аглушыць яе, — вінавата апраўдваўся Ваня.

— Ліля плакала...

Народу ў кафэ прыбывала. А мне так хацелася пагутарыць з Ліляй. І не толькі каб заспакоіць сваю журналісцкую цікавасць. Ды й яна, як паспеў заўважыць, не супроць была пагаварыць. Я азірнуўся. У маленькім прамавугольніку акна быў бачны акрайчык неба. Ён пачарнеў. Раптам хлынуў дождж. І прыгнаў у кафэ мноства людзей. Лілі давялося заняцца іх абслугоўваннем. Але запрасіла мяне зайсці да яе дахаты.

Выйшаўшы з кафэ, я доўга стаяў у браме і глядзеў, як імчалі па вуліцы ручаі. У мокрым люстэрку асфальта адлюстроўваўся вымыты горад.

Які цудоўны сёння дзень! Нешта абудзілася ў маім сэрцы. Сталі падабацца людзі, якія заспяшылі па вуліцы.

Набліжаўся час сустрэчы. З пустымі рукамі не пойдзеш. А што ўзяць з сабою? Ліля штосьці гаварыла пра блізнятак. Не пашкодзяць цукеркі. З кветкамі было горш. Але і іх знайшоў.

На мой званок выйшла Ліля. Прыгожа апранутая, пасвяжэлая, у добрым настроі. З удзячнасцю прыняла ружы. Са здзіўленнем паглядзела на цукеркі.

— Дык у цябе ж блізняткі, — тлумачыў я.

— Вось яны, — і, падышоўшы да стала, зняла з яго фатаграфію. На ёй былі два барадатыя дзецюкі, падобныя адзін на аднаго, бы серыйныя караблі адной маркі.

— Адзін плавае, а другі...сядзіць.

— За што?

— Ці гэта істотна?

— Прабач, — адказаў я.

Ліля пачала збіраць на стол. Час за гаворкай ішоў даволі хутка. Ліля часта паглядвала на гадзіннік. Мне здалося, што яна некага чакае.

Калі сонца пачало апускацца над морам, Ліля паднялася і запрасіла ісці за ёю. Мы апынуліся ў суседнім пакоі.

І тут я ўбачыў блакітную птушку. Барвовыя промні заходзячага сонца загарэліся на аксамітна-сініх перынах, заблішчэлі казачным агнём. Успышка была такой кароткай, што мне падумалася: а ці ўсё гэта не прыйшло з той далёкай пары, якая называецца юнацтвам? Але птушка не паварушылася, не паправіла сваіх перын. Яны былі выцвілыя і шэрымі. Горла перахапіў востры боль. Потым ён перайшоў у сэрца. І там затрымаўся...



 

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



ВІКТАР ШНІП І ЛЮДМІЛА РУБЛЕУСКАЯ З ВЕРАНІЧКАЙ.

*Фота М. Лукшы*

**Віктар Шніп**

## СУНІЧКІ ДЛЯ ВЕРАНІЧКІ

На паляне
ля крынічкі
Чырванеюцца
сунічкі.
Я іх буду сабіраць,
Каб дачушку
Частаваць,
Бо яна яшчэ
Малая
І сцяжынкі ў лес
Не знае.

Толькі кажа
Веранічка:
— Падрасту і ля крынічкі
Ягад набяру багата
Прынясу
для мамы з татам.

## МЫ ПАМОЧНІКІ

Стась падлогу падмятае —
Маці ён дапамагае.
Кажа Люда:
— Я зноў буду
Мыць вядзерца і пасуду.
Ёсць усім
У хаце праца.
Мы не любім лепаваццa.
Наш маленькі Ігарочак
Працаваць таксама хоча.
Ну, а ты
Дапамагаеш,
Ці ўсё з цацкамі
Гуляеш?

***

## СПЕЦЫЯЛЬНА ДЛЯ „ЗОРКІ"

**Людміла Рублеўская**

# ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК, КОТКІ ПЕПІТЫ І ДЗЯЎЧЫНКІ ВЕРАНІКІ

У вялікай кватэры на чацвёртым паверсе жывуць дзяўчынка Вераніка, тата і мама.

Тата ў Веранічкі — паэт, а мама — паэтэса. Магчыма, Веранічцы хацелася б, каб у бацькоў былі больш цікавыя прафесіі — напрыклад, каб мама працавала ў лялечным магазіне, а тата быў лётчыкам, але бацькоў не выбіраюць.

Тата і мама падарылі Веранічцы мышку Пік-Пік і котку Пепіту. Мышка Пік-Пік жыве ў норцы пад шафай. Кожную ноч, калі ўсе засынаюць, яна выходзіць з норкі і шукае, каб чаго паесці, смачна і многа. І тады з ёй адбываюцца розныя прыгоды.

Таму што нельга думаць толькі пра ежу.

Гэта добра разумеюць Пепіта, Вераніка, тата і мама.

А ты?

### РАЗДЗЕЛ 1. МЫШКА ПІК-ПІК І ХАЛАДЗІЛЬНІК

Аднойчы ночай мышка Пік-Пік вылезла з норкі і пачала шукаць ежу. Яна шукала, шукала і нічога не знайшла.

„Мама дастае ўсё смачнае з халадзільніка, — падумала мышка Пік-Пік. — Я адкрыю халадзільнік і паем!"

Мышка адчыніла халадзільнік вельмі лёгка, залезла ў яго і дзверцы за ёй зачыніліся. Мышка Пік-Пік пачала есці.

Яна ела каўбаску, масла, смятанку і тварог, і нават нейкія таблеткі.

Наеўшыся Пік-Пік захацела выйсці з халадзільніка. Але не змагла. Цікава, хто гэта ўмее?

І тады мышка Пік-Пік пачала дрыжэць ад холаду.

Яна дрыжэла: „Др-др-др-др!..", халадзільнік пачаў дрыжэць разам з ёй. Мышка так моцна дрыжэла разам з халадзільнікам, што ён пачаў хадзіць па кухні!

Ён падышоў да пліты, і атрамалася „Бух!", пасля — да буфета, і атрымалася „Бух-бух-бух!".

Мама, тата і Веранічка прачнуліся. Што там робіцца на кухні?! Пайшлі на кухню і ўбачылі, як халадзільнік швэндаецца па кухні і калоціцца.

„Там злодзей, — цвёрда сказаў тата. — Я смелы. Я пайду і выклічу міліцыю. Усе назад! Адыходзім!"

Але тут ад вялікага калатуна дзверы халадзільніка расчыніліся, і мама, тата і Веранічка ўбачылі: у пустым халадзільніку, усё перамазанае маслам і смятанай, сядзела Нешта, аддалена нагадваючае мышку.

Мышка Пік-Пік не стала чакаць, калі яе пазнаюць, і плітанула ў норку, грэцца і спаць.

### РАЗДЗЕЛ 2. МЫШКА ПІК-ПІК і БУЛЬБА

Аднойчы мышка Пік-Пік ночай вышла з норкі і пачала шукаць, што б ёй паесці.

На кухні яна ўбачыла кошык з бульбай. Мама пачысціла гэтую бульбу, каб раніцай зварыць яе для таты і Веранічкі.

„Гэта, відаць, яблычкі, — падумала Пік-Пік. — Я з'ем іх."

І з'ела.

І зрабілася вялікая і цяжкая, як кошык з бульбай.

Мышка Пік-Пік не магла скрануцца з месца. Яна толькі перакулілася на спіну, дрыгала лапкамі і пішчэла: „Пік-пік! Пік!"

Ад гэтага прачнулася котка Пепіта. Пепіта вырашыла, што мама забылася закрыць кран, і ён плача.

Зайшла Пепіта на кухню і ўбачыла вялі-ізную круглую рэч з маленькім хвосцікам. Хвосцік малаціў па падлозе: „Тук-тук! Тук-тук!" А знутры кругляша даносілася: „Пік-пік! Пік-пік!"

Пепіта абышла дзіўную рэч, панюхала пусты кошык і ўсё зразумела.

„Трэба ратаваць мышку" — падумала котка Пепіта. — Яна наелася сырой бульбы, і цяпер гэтая бульба ляжыць у яе жываце. Трэба гэтую бульбу зварыць!"

І котка Пепіта паставіла на пліту чайнік.

Але мышка Пік-Пік вельмі не хацела, каб у ёй варылі бульбу. І са страху ў яе жываце як забурліла, як забурчэла, і ўся бульба ўмомант пераварылася. Мышка Пік-Пік адразу ўскочыла і ўбачыла перад сабою котку Пепіту. Тая сядзела, усміхалася і чакала, калі мышка Пік-Пік скажа ёй: „Дзякуй!"

А можа: „Вялікае дзякуй!"

А можа: „Вялікае дзякуй і тысяча найлепшых пажаданняў."

Але мышка Пік-Пік думала толькі пра ежу. Яна вільнула хвосцікам і ўцякла.

А котка Пепіта падумала: „Не буду больш дапамагаць гэтай Пік-Пік. Буду лавіць яе!"

І пайшла спаць.

### РАЗДЗЕЛ 3. МЫШКА ПІК-ПІК ІДЗЕ Ў ГОСЦІ.

Аднойчы мышка Пік-Пік гуляла па кватэры. Яна бегала па падлозе, а пасля пачала залазіць на фатэлі, а пасля пачала скакаць па канапе. „Прыг-скок! Прыг-скок!"

І тут мышка заўважыла, што калі яна падскоквае, нешта наверсе тоненька звініць: „Дзінь-дзінь-дзінь!"

Мышка агледзелася і ўбачыла, што над канапай вісіць гітара. Але мышка не ведала, што гэта гітара. Мышка ўбачыла толькі круглую чорную адтуліну ў жоўтым дрэве і вырашыла, што гэта — норка. А ў норцы жыве яшчэ адна мышка.

„Трэба пазнаёміцца з гэтай незнаёмай мышкай, — падумала Пік-Пік. — У кожнай прыстойнай мышкі ёсць у норцы нешта смачнае."

І мышка пачала падскокваць на канапе: прыг-скок! гоп-гоп! Прыг!.. І Пік-Пік апынулася ў норцы.

Але там было зусім пуста. Там не было ні мышкі, ні прысмакаў... І Пік-Пік захацелася вылезці адтуль, але не змагла.

„Пі-ік, пі-ік... — заплакала мышка, і нехта тоненька паўтарыў у яе над вухам: „Пі-і-ік, пі-і-ік!.."

„Хто тут?" — спалохалася мышка. — „Гэта я, музыка!" — празвінела ў адказ.— Я тут жыву." — „А што ты ясі?" — адразу пацікавілася мышка. „Нічога..." „Ах, нічога? Тады выпусці мяне адсюль як мага хутчэй!" — „Добра", — згадзілася музыка, і раптам нешта так страшна загучала, як быццам бы ўсе струны гітары перасварыліся. І мышка Пік-Пік так перапалохалася, што адразу выскачыла з гітары і шуснула ў норку, пад цёплую коўдрачку.

*Працяг у наступным нумары.*

 

## ПАМІДОРЧЫК-ЛЕЖАБОКА

— Лежабока!
Лежабока!! —
Раскрычалася сарока.
Памідорчык,
Уставай!
— Ой, баліць мне галава.
— Уставай, бо сонца ўстала. —
Побач вішня не змаўчала.
— Трэба,
Брацe,
Працаваць.
Уставай жа, уставай!
Зашумелі травы
Хорам.

Лежабокам быць –
Ой, сорам!
Памідорчык зразумеў
І крыху
Пачырванеў.

## ЛІСІЧКА

Рыжая лісічка,
Воўчая сястрычка,
Не блукай
Ля хаты,
Мы табе
Не рады.
Бачу
Хочаш кашы.
Гэта каша
Машы.
Рыжая лісічка,
Воўчая сястрычка,
Не прыжмурвай
Вочы —
Маша есці хоча.
З'есць і лыжку
і другую
і лісічку пачастуе.

## ПРА КОЦІКАЎ І ІХ БОЦІКІ

Раніцою коцікі
Абувалі боцікі.
І таму
Каткі браты
Не баяліся
Вады.
Ды аднойчы
Раніцой
Неяк стрэліся
З лісой.
— Што ж вы гэта,
Коцікі,
У старэнькіх
Боціках?
Разувайцеся,
Я дам
Боты новенькія
Вам.
Радасныя коцікі
Паздымалі боцікі.
Боцікі ліса ўзяла
І ў бярэзнік
Уцякла.
Коцікі,
Эх, коцікі,
Нашто здымалі
Боцікі?

## ВЕРАБ'ІНАЯ СЯМ'Я

Паглядзі —
У Вераб'я
Немаленькая сям'я.
Самы меншанькі
Андрэй
Смела скача
Ля курэй.
Тут жа большанькі
Лявон
Адганяе прэч
Варон.
— Эх, наесці б мне
Зярнят ! —
Чарназем грабе
Ігнат.
Светкі з Маняй
Не відаць —
З мамай
Вучацца лятаць.
Палічы цяпер хутчэй,
Колькі ў Вераб'я дзяцей.

ВІКТАР ШНІП





**ЛЕРА.**
*Фота З.Яўтуховіча*

## ПАЗНАЁМІМСЯ

Беларусь, 212015, г. Магілёў, вул. Партызанская, д. 8, **Балотаў Сяргей** (14 гадоў, цікавіцца фатаграфікай, гадуе рыбак).

Беларусь, 222810, Мінская вобл., г. Мар'іна Горка, пас. 1, д. 3, кв. 2, **Свігач Оля** (11 гадоў, хоча перапісвацца з дзецьмі 11-12 гадоў).

Беларусь, 225215, Брэсцкая вобл., г. Белаазёрск, вул. Міра, д. 3в, кв. 9, **Боднар Святлана** (9 гадоў, любіць чытаць, збірае паштоўкі, гумар).

Беларусь, 225210, г. Бяроза, пер. Ягадны, 3/13, **Марчэня Лена** (11 гадоў) і **Марчэня Дзіма** (13 гадоў).

Беларусь, 231800, г. Слонім, Гродзенская вобл., вул. Цыялкоўскага, д. 6, **Панова Наталля** (12 гадоў, любіць чытаць, маляваць, збірае паштоўкі).

Беларусь, 223210, Мінская вобл., Чэрвенскі раён, в. Астравы, д. 42, кв. 2, **Стопкіна Алеся** (11 гадоў), **Стопкін Саша** (8 гадоў). Збіраюць маркі, любяць жывёл. Алеся ходзіць у музычную школу, вывучае англійскую мову.

220139, Беларусь, г. Мінск, в/г Сцяпанка, д. 1, кв. 21, **Валчкова Ольга** (13 гадоў, збірае паштоўкі і наклейкі, любіць чытаць; пісаць на беларускай ці рускай мовах).

231770, Беларусь, Гродзенская вобл., В. Бераставіца, вул. Леніна, д. 24а, кв. 12, **Чарныш Зоя** (пяты клас; хоча перапісвацца з дзяўчынкай).

Беларусь, 220101, г. Мінск, вул. Якубава, д. 6, кв. 312, **Зерніцкая Надзя** (любіць музыку, кнігі; пісаць па-руску ці па-беларуску).

Беларусь, 225050, г. Камянец, вул. 40 год БССР, д. 7, кв. 9, **Парафенюк Сяргей**.

Беларусь, 231300, Гродзенская вобл., г. Ліда, вул. Перамогі, д. 19, кв. 35, **Мякшыла Анна Мікалаеўна** (пяты клас, вучыцца ў музычнай школе, іграе на фартэпіяна, гадуе папугайчыкаў; хоча перапісвацца з дзяўчынкай).

## *Вершы Віктара Шведа*

### ХТО ХОЧА ДА НЕБА?

Настаўнік божага закона
Рашыў, што запытацца трэба,
Ці згодны ўсе, хаця б сягоння,
Усёй гурмой пайсці да неба?

Згадзіўся клас апроч Адама.
— З сумленнем трэ быць у парадку.
Даў слова раніцою маме
Прыйсці дамоў пасля заняткаў.

### ДЗЕЦІ МУЧЫЛІ КАТА

— Дзеці, гэта ж дурната,
Мучыць беднага ката!
Ён ужо ледзь-ледзь жывы,
Замарылі цалкам вы.
Толькі ад цябе, сынок,
Наш не пацярпеў каток.
А на гэтае Андрэй:
— Мучыў я яго раней.

### БАЦЬКІ МАЮЦЬ ТЭЛЕВІЗАР

— Ты ўжо гарэзлівы такі,
Што немагчыма і змагацца.
Прызнайся, ці твае бацькі
Маюць яшчэ кагосьці ў хаце?

— Вось вытрымкі мне пестае,
Мучаць усякія капрызы.
Па-праўдзе дык бацькі мае
Маюць у хаце тэлевізар.







**Васіль Сухамлінскі**

## Куды спяшаліся мурашкі

На дрэве сядзела вавёрачка. Яна ела арэх. Смачны, бо аж вочы заплюшчыла. Маленькая крышынка ад арэха ўпала на зямлю. За ёй другая, трэцяя. Шмат крышынак упала на зямлю.

А па сцяжынцы сярод травы бегла Мурашка. Спяшалася па ежу сваім маленькім мурашанятам. Яна трымала шлях на поле: чула, што там ёсць шмат салодкіх крышын кавуна. Раптам чуе: падаюць з дрэва крышынкі ад арэшка. Паспрабавала Мурашка — арэшак духмяны і смачны. Панесла Мурашка крышынкі да мурашніка, расказала суседзям: „Бяжым, мурашкі, па арэшкі!" Сабраліся мурашкі ў дарогу. А Мурашчыны дзеткі ядзяць крышынку, што прынесла маці, дзеляцца з таварышамі. Усім дзеткам у мурашніку хапіла, а яшчэ і засталося.

А мурашкі ўжо пад дрэвам. Сабралі крышкі і панеслі дадому. Хопіць ежы на зіму.

## Два матылькі

Над зялёным лугам лёталі два матылькі. Адзін белы, а другі — чырвоны. Сустрэліся, селі на зялёным лісточку і давай хваліцца. Белы матылёк гаворыць:

— Мае крыльцы самыя прыгожыя, бо я падобны на белае воблачка.

А чырвоны матылёк так сябе хваліць:

— Не, мае крыльцы прыгажэйшыя, бо я падобны на сонца.

Зайшло сонца, наступіла ноч. Абодва матылькі пашарэлі.

*Пераклаў В. Бабей.*

**Беларускія гульні**

## ПЕРАСКОЧ ГАРУ!

Дзеці кладуць слупком шапкі. Затым у тым жа парадку, як складзеныя шапкі, пачынаюць скакаць праз іх, стараючыся не зачапіць іх нагамі. Калі хто-небудзь зачэпіць шапку, яму трэба прапаўзці праз строй: усе становяцца адзін за адным, шырока расставіўшы ногі, а вінаваты паўзе ў іх пад нагамі.

Калі ігрок тры разы зачэпіць шапку, ён выходзіць з гульні.

## А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А



Як хутчэй вярнуцца з канікул ?

 

# ПЕРШЫЯ ЗНАХОДКІ

Гэтае лета — часіна археалагічных раскопак у Віцебску. Вось ужо колькі тыдняў трываюць працы ў цэнтры старажытнага горада, якія праводзіць абласное рэстаўрацыйнае ўпраўленне. Асноўныя аб'екты пошукаў — рэшткі адных з леншых (але зруйнаваных у савецкія часы) будынкаў места — Успенскага сабора ды Васкрасенскае царквы. Раскопы ўжо далі вялікі плён: адшуканы моцныя падмуркі старажытнага сабора. „Цяпер можна сцвярджаць, што помнік захаваўся. І пакуль ніякія будаўнічыя працы, якія мяркуе весці тут Руская праваслаўная царква, ажыццяўляць нельга. Нашая задача збергчы тое, што засталося", — гаворыць кіраўнік работ археолаг І. Цішкін.

Выпадкова знойдзены астанкі болей дзясятка людзей, якія былі кімсьці хаатычна пахаваны. „Хто яны?" — такое пытанне стала перад мясцовай пракуратурай. Мажліва, гэта новыя, на гэты раз віцебскія, Курапаты, аднак невыключана, што загінуўшыя людзі — ахвяры другое сусветнай вайны.

Акрамя ўсяго гэтага, пры раскопах знойдзена шэраг іншых цікавых прадметаў, выяўлена старадаўняя брукаванка. Робіцца першыя навуковыя высновы.

**Ю. Сцяпанаў**

# НЕ ПРЫЙДЗЕ ГАЛІНА...

Калі цяпер іду за зёлкамі, то заўсёды прыпамінаю сабе той час, калі ў Семяноўцы пачыналі нешта рабіць у справе вадасховішча „Семяноўка". Недалёка ад Семяноўкі быў хутар Бяндзюга. Было тут усяго адзінаццаць дамоў. У невялічкай мураванцы жыла дзяўчына, на чатыры гады маладзейшая за мяне, з бацькамі і сваёй малой тады яшчэ сястрой Касяй.

На канікулах я заўсёды зарабляла на сябе і ішла на аблагі, якія былі насупраць хутара і там збірала зёлкі.

Галіна ведала, што я збіраю, і заўсёды брала сваю сястру ды ішла да мяне. Мы тады з ёю аб усім гаварылі.

Калі прыйшоў час перасялення жыхароў Бяндзюгі, некаторыя сем'і хутка адыйшлі. Хто перасяліўся ў другія вёскі, хто ў Семяноўку, а хто ў Гайнаўку. Сям'я Галіны выехала ў Гайнаўку. Галіна выйшла замуж на вёску.

Найдаўжэй на Бяндзюзе жыла сям'я Н. і Т. Урэшчэ і яны перасяліліся ў Бандары.

Цяпер на тым месцы пустэча. Не відаць, дзе чыя стаяла хата. Некалькі метраў ад былога хутара пачынаецца вадасховішча.

Месцамі відаць, як у вадзе расце трава; лётае многа птушак.

Восенню ажно жаль бярэ, калі чую, як паляўнічыя страляюць да птушак.

Аднойчы, калі пад вечар паляўнічыя пачалі страляць, журавель лётаў над вадой і жаласна крычаў. Можа, ён праклінаў людзей, якія парушылі яго спакой, а мо каго блізкага забілі?

З гэтага боку вадасховішча мала людзей можна ўбачыць. Аднак і тут плаваюць на лодках і пантонах. На матароўцы яшчэ ніхто тут не плаваў.

Там, дзе калісь было ворыўнае поле, выкапана вялікая яма. Тут выбіралі пясок і кудысьці, „камазамі" вывозілі. На гэтым месцы таксама растуць зёлкі. Толькі цяпер сумнавата іх збіраць, бо амаль ніхто не ездзіць і не ходзіць па дарозе, якая калісь вяла да тарнапольскай крамы /цяпер яе няма/, а далей да Лукі і Бандароў і той палявой дарогай, якая вяла да дамоў бяндзюжанскіх гаспадароў.

**Аўрора**




**Астроне!**

Сніцца мне, што я еду цягніком. За вокнамі шэра, брыдка, людзі сумныя. Даехаў я да якойсьці чорнай, вельмі чорнай станцыі. Нічога не было відаць, толькі адна чарната. І з гэтай чэрні выскачыў вялікі чорны кот з бліскучымі вачыма і вялізнымі кіпцюрамі і накінуўся на мяне. У той момант падышоў кандуктар і сказаў мне, што я задалёка заехаў і мне трэба вярнуцца на папярэднюю станцыю. Я вярнуўся. Гэтая станцыя была як не станцыя, а плошча ў Беластоку каля касцёла Роха, толькі касцёла не было. Тут таксама было ўсё шэрае, непрыемнае. Я спаткаў знаёмага, які мне сказаў, што яны будуюць горад як бы з трох частак. Першую частку пабудавалі, яна вельмі прыгожая, светлая, каляровая, другую яшчэ будуюць, таму яна яшчэ такая шэрая і непрытульная, а трэцяй яшчэ не пачыналі будаваць. А я зноў сяджу ў поездзе і еду да тае чорнае станцыі. І зноў выскаквае страшны чорны кот і кідаецца на мяне, і я прачынаюся. Што гэта ўсё можа абазначаць? Дадам толькі, што я вельмі хворы і прайшоў вельмі цяжкую аперацыю. Ці мяне чакае смерць?

**Барыс**

А мо, Барыс, якраз наадварот — выздараўленне. Ты ўсё ж вярнуўся з тае чарнаты на папярэднюю станцыю. Той чорны кот, каб на яго халера, у першым выпадку, відаць, абазначаў тваю аперацыю. Са сну вынікае, аднак, што вялікая небяспека пагражае табе надалей. Ты, па-першае, увесь час ездзіў поездам. Усё было такое шэрае і брыдкае, а людзі сумныя. Але найгоршае тое, што ты ізноў ехаў да тае чорнае станцыі. І зноў кінуўся на цябе той чорны кот. Мо будзе нейкая наступная аперацыя?!. У кожным выпадку ты павінен быць пад сталым наглядам лекара.

**АСТРОН**




**Дарагое Сэрцайка!**

Мама мая заўсёды паўтарае, што язык як язык, але сэрца то ў мяне добрае. Ну, дык і праўда. Ёсць у мяне сяброўка, заўсёды я любіла яе. Любіла да такой ступені, што выбрала яе на хросную маці для сваёй дачушкі. Мы прывязніліся з ёю надалей. І вось недзе паўгода таму назад гэта мая сяброўка сказала мне, што яна зацяжарыла. Я здзівілася. — У яе ж ніякага хлопца не было. А яна мне і гаворыць, што быццам бы бацька дзіцяці гэта старэйшы чалавек, які на самай справе мог бы быць яе бацькам. Расказала, што яна звязалася з ім ужо даволі даўно, але жаніцца з ёю ён не збіраецца, бо мае сям'ю і г.д. Але яна вырашыла дзіця нарадзіць. Я моўчкі прыняла ўсё гэта да ведама. Шкада мне стала яе. У мяне ёсць муж, які мяне кахае, а яна ж вось адна і спадзяецца дзіцяці...

Летам я паехала з дачушкай адпачываць. Муж мой у гэты час працаваў, але зрэдку прыязджаў да нас. Усё ж такі мне ўдваіх было і сумнавата і страшнавата, а домік быў вялікі. Я надумала сабе, што вось запрашу гэту сяброўку — будзе і мне весялей, і яна адпачне крыху ў гэтай сваёй маркоце. Сяброўка прыехала, не чакаючы другога запрашэння. Не скажу, што было нам з ёю кепска. Яна ўжо была з вялікім жыватом — у восьмым месяцы цяжарнасці. Я старалася апекавацца ёю як магла, уступала ёй, дагаджала ва ўсім. Але вось каторагась дня сяброўка сказала мне, што едзе за пакупкамі ў суседняе мястэчка. Кажа, маю ахвоту на нейкія бананы ці апельсіны. Ну, што ж, думаю сабе, харчуюць тут някепска, але ж дзяўчына цяжарная, мае свае вымогі.

Прыехала пад вечар. Самаходам прывёз яе малады чалавек (больш трыццаці пяці яму не было). Прывезлі з сабой цэлую скрынку піва. Як заселі на панадворку, дык не ўсталі, пакуль амаль усяго не выпілі. Не скажу, і мяне запрашалі ў сваю кампанію, але я піва не люблю. А праўду кажучы, мне праціўна было глядзець, як дзяўчына з жыватом хлёбча тое піва і туліцца да мужчыны, якога ў хаце, як яна сказала, чакае жонка.

Пасля яны зашыліся ў другі пакой, пакінуўшы мяне з дзіцём у роздумах, і доўга там кахаліся. Я ад агіды не магла прыйсці ў сябе і ўсё хадзіла то вакол доміка, то ішла ў свой пакойчык і прыкладвалася каля дзіцяці. Чалавек, з якім прыехала мая сяброўка, раніцай пачаў збірацца дахаты. Я не вытрымала і сказала „яго" дзяўчыне, каб убіралася адсюль. Ёсць аказія, каб ехаць разам з каханым! Дзяўчына абразілася, але сабрала манаткі і выехала. Больш не хачу яе бачыць на вочы.

**Вераніка**

Вераніка! Твая сяброўка безадказная і ад такіх людзей лепш быць як мага далей. Першая справа — як цяжарная жанчына можа сабе дазволіць на тое, каб піць алкаголь! Другая — яна яшчэ і манюка. Праўдападобна, ніякі не „бацька" зрабіў ёй гэтае дзіцятка, а менавіта той жанаты трыццаціпяцігодак, з якім яна вярнулася да цябе, каб пабрыкаць. Які ж бы іншы мужчына шукаў забавы з цяжарнай, у восьмым месяцы, дзяўчынай... Ці ж мала яшчэ цэлак ходзіць?!.

**СЭРЦАЙКА**

*******************************************




## ЗАПАСЫ НА ЗІМУ

**Марынаваная цукінія**

На 1 кг маладой цукініі трэба ўзяць 2 шклянкі вады, паўшклянкі віннага воцату, 5 дэкаў солі, 3 лыжачкі цукру, 3-4 лаўровыя лісткі, лыжачку каляндры ці гарчыцы, лыжачку англійскага зелля (пахучага перцу), 1/3 лыжачкі імбіру, 1/4 лыжачкі змеленага перцу, 5-6 зубкоў часнаку.

Памыць цукінію, нарэзаць яе ўпоперак на кавалкі таўшчынёю каля 3 см, палажыць у выпараныя ці выпражаныя слоікі, перасыпаючы пасечаным часнаком, імбірам, каляндрай, англійскім зеллем і перцам. Заліць гарачай вадкасцю (вада, перагатаваная з воцатам, соллю, цукрам і лаўровым лісткам). Зачыніць слоікі закруткамі з пергаментнай паперай у сярэдзіне і пастэрызаваць іх у тэмпературы 85 градусаў Цэльсія на працягу 20 мінут. Перахоўваць у халодным цёмным памяшканні.

**Капары з насення настурцыі**

На паўкілаграма насення настурцыі бярэм 15 дэкаў солі, 5 маленькіх цыбулін, некалькі лаўровых лісткоў, некалькі зярнят англійскага зелля, воцат, 3 лыжкі цукру.

Маладое, зялёнае, няспелае насенне настурцыі памыць, кінуць на сіта, перамяшаць з соллю і пакінуць у накрытым посудзе да наступнага дня. Праз 24 гадзіны адцадзіць і заліць перагатаваным астуджаным 2-працэнтным воцатам. Праз наступныя 24 гадзіны адцадзіць. Тады 3-працэнтны воцат (каля 1 шклянкі) закіпяціць з цукрам, англійскім зеллем, нарэзанай цыбуляй і лаўровымі лісткамі. Астудзіць, араматызаваным воцатам заліць насенне настурцыі. Класці ў маленькія слоікі, зачыняць закруткамі з пергаментнай паперай у сярэдзіне. Перахоўваць у халодным цёмным памяшканні.

Капары выкарыстоўваць для соусаў, у якасці дадатку да селядцоў, салатаў і для ўпрыгожвання страў.

**Карнішоны**

На 1 кг маленькіх агурочкаў трэба ўзяць 1,5-2 шклянкі вады, шклянку віннага воцату, 10 зярнятак англійскага зелля, 6 лаўровых лісткоў, 6 зубкоў часнаку, 10 гваздзікаў, 25 дэкаў солі, 3-4 лыжкі цукру.

Выбраць здаровыя, як мага меншыя агурочкі, добра памыць іх, асушыць, палажыць у міску, перамяшаць з соллю, накрыць талеркай, прыціснуць нечым цяжкім і так пакінуць папач. На наступны дзень размяшаць воцат з вадой, дадаць прыправы, закіпяціць. Агурочкі адцадзіць, палажыць у чыстыя, выпараныя слоікі, заліць загатаванай, гарачай залівай. Слоікі зачыніць закруткай з пергаментнай паперай у сярэдзіне. Пастэрызаваць 20-25 мінут пры тэмпературы 85 градусаў Цэльсія.

Зімой карнішоны выкарыстоўваюць для соусаў, салатаў, а таксама дадаюць іх да тушанага мяса.

**ГАСПАДЫНЯ**

# НІЎКА

## ІМПАРТНАЯ „САЛАТА"

Жонка скардзіцца мужу:
— Маё адзенне так знасілася, што людзі могуць прыняць мяне за тваю кухарку.
— Калі б ім давялося ў нас паабедаць, — адказаў муж, — яны б змянілі сваю думку.

*

У час сваркі муж папярэджвае жонку:
— Не будзі ўва мне звера!
— Хм, — фыркнула жонка, — я мышэй з дзяцінства не баюся.

*

У паўзмрочным рэстаране малады афіцыянт пацалаваў аднаго з наведвальнікаў.
— Што гэта значыць? — абурыўся той.
— Прабачце, сэр, я пераблытаў вас з вашай жонкай.

*Даслаў Валеры Бабей*



– О, БОЖА ! ЦІ ХТО БАЧЫЎ МАЮ ЖОНКУ ?

Інтэрпрэтатары чужых казак

## МІФЧЫК

По старажытнай сярэднеазіяцкай зямлі бег чырвоны воўк. Ён спяшаўся да бабулі з радаснай весткай, што чырвоныя ваўкі ўключаны ў Чырвоную Кнігу.

Рантам воўчая радасць была абарвана чалавечым стрэлам.

З-за саксаула выйшла Шэрая Кепачка са стрэльбай.

— А няма чаго вызначацца, — пачулася з-пад Шэрай Кепачкі, — трэба быць як усе!

Шэрая Кепачка нічога не баялася. Яна была ўнесена ў асабістую чырвоную кніжачку.

Ільля Шахрай.
*(„Чырвоная змена")*



## РАТАЎНІК

Бацька паклаў плед на пяску побач жанчыны, якая слухала транзістар.

— Хіба пайду трохі паплюхацца пры беразе, — сказаў я.

Невядома адкуль з'явіўся ратаўнік. Быў гэта малады мускулісты чалавек.

— Купацца забаронена, — заявіў ён, хаця ніхто яго не пытаў. — На мачце вісіць чорны сцяг.

— Як вы прыгожа загарэлі! — стала захапляцца панечка з транзістарам. — Вашы далоні цямнейшыя за мае лыткі, хаця я ўжо тыдзень загараю. Палажыце для параўнання сваю руку.

Ратаўнік паклаў.

— А калі палажыць на сцягно, дык кантраст будзе яшчэ большы, — далей не змаўкала панечка.

Сапраўды кантраст быў большы.

— Самога сонца мала, — сказаў ратаўнік. — Патрэбны яшчэ мацыён і вада.

Панечка ўсміхнулася і зрабіла заахвочваючы жэст.

— Не ўмею плаваць, — адказала яна, выключыла транзістар і паднялася з пледа.

— Магу навучыць, — згадзіўся ратаўнік.

Я ўскочыў, каб пайсці разам з імі, але тата схапіў мяне за руку.

— Я таксама хацеў бы падвучыцца плаваць, — сказаў я з жалем у голасе.

— На ўсё свая пара, — адказаў рашуча бацька.

Назад сеў я каля яго.

— Аднаго не разумею, — сказаў я ў задуменні. — Як ён будзе яе вучыць плаваць, калі на мачце вісіць чорны сцяг?

Праз няцэлую гадзіну панечка з транзістарам вярнулася на пляж, але без ратаўніка. У валасах тырчэлі сасновыя іголкі.

— Добра плавалася? — адазваўся я па-прыяцельску.

Панечка засаромелася.

— Нахабны смаркач! — сказала невядома чаму са злосцю.

Скруціла плед, пазбірала свае рэчы і цяжкім крокам накіравалася да выхаду. Ратаўнік, мабыць, даў ёй добрую школу.

*Паводле Я. Савашкевіча*

## АХВЯРА ПРЫНЦЫПУ

Ягоны прынцып
Можна рыфмаваць:
„Трымаць
І не пушчаць!"
І гэты прынцып
Ён праводзіў яра
І сам аднойчы стаў
Яго ахвярай.
Дакладней,
Раз яму прыперла ...аць,
Ды, верны прынцыпу
„Трымаць і не пушчаць!"
Пачаў трываць...
І што ж?
Свой прынцып споўніў?
Не...
Ўласныя штаны напоўніў.

МІКОЛА ЯНЧАНКА

## ВІРАВАНКА
(ПЯЦІЛІТАРНАЯ)




Першую літару слова трэба ўпісаць у клетачку з лікам, астатнія — вакол гэтай клетачкі згодна з рухам гадзіннікавых стрэлак. Як акрэсленні падаюцца тры словы, якія асацыіруюцца з адгадваемым словам.

1) жыта, зерне, пісьменнік; 2) спаборніцтва, канец, заключная частка; 3) авечка, дыплом, Крапіва; 4) кроў, насякомае, лета; 5) учынак, ганьба, пачуццё; 6) іскра, бяда, попел; 7) сталіца, мода, Захад; 8) лапа, драпіна, кроў; 9) спектакль, вочы, выява; 10) сусед, каталік, Варшава; 11) Бог, рука, пакаранне; 12) гонар, загаловак, званне; 13) месца, момант, геаметрыя; 14) іслам, кніга, догма; 15) вага, груз, абавязак; 16) вока, волас, туш; 17) рака, Еўропа, Чорнае мора; 18) слова, катэгорыя, граматыка; 19) рогі, барада, самец; 20) даручэнне, рэч, патрэба.

**„Ядань"**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на віраванку з н-ра 30: арэх, негр, поле, ярмо, зубр, Эдзі, град, літр, мігі, бакі, заяц, арда, тыгр, готы, кіно, Якуб, дыск, губы, табу, нага.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць:

\ляксандр Дабчынскі з Беластока,
ı Ірыней Красоўскі з Бельска.

********************************************




„Niwa", ul.Suraska 1, 15-950 Białystok skr. pocz. 149, tel. 210-33.
Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne, 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.
Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

*Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.*
*Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк,Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).*

I.Prenumerata pocztowa
1.Termin wpłat na prenumeratę pocztową na IV kwartał 1991 r. upływa 20 sierpnia 1991 r.
2.Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 13.000 zł + 6.500 zł za doręczenie.
3.Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.
II.Prenumerata własna - prowadzona przez wydawcę.Cena 1 egz.z wysyłką wynosi 2.000 zł.

Cena prenumeraty miesięcznej:
- wrzesień - 10. 000 zł.

Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 26.000 zł. Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.